# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 4



ПАСЬЛЯ ЗАНЯТКАУ.

фото Ўл. СЕМЯНЯКІ.

## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 ГОД
НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мі ГОД ВЫДАНЬНЯ**



**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, апавесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 |

ЦАНА ў розьнічным продажу 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Праўда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

## Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

**ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ**

**ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ** ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

25 ЛЮТАГА 1930

N 4

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79





Слухаюць радыё

Фото С. Грына



# НЯСТРЫМНАЕ

Эскіз ПЛАТОНА ГАЛАВАЧА

Малюнкі Вал. Волкава

Мулка стаяць калёнамі на цьвёрдым таку. Ныюць ногі. Клемс сеў на варотніцу, выцяг перад сабою ногі, веялку кінуў на мякіну.

Управа, каля ног, кучка нязьвеянага яшчэ жыта. Каля ног уперадзе невялікім паўкругам мякіна, а далей, таксама паўкругам, чыстае жытняе зерне. Зерне лягло густа і ад таго, што чыстае яно, здаецца вельмі буйным.

Клемс узяў жменю нязьвеянага жыта, пачаў перасыпаць яго з далоні на далонь і здуваць, як перасыпае, мякіну. Мякіна зьлятае ў бок, а на далоні застаюцца чыстыя сухія зерні. Ён пашчупаў зерні пальцамі, паважыў іх на руцэ і сыпануў у зьвеянае. Зерні забраскалі і зьніклі ў кучы.

„Пудоў каля дваццаці набярэцца... добры хлеб..."—падумаў Клемс. Пасядзеў яшчэ колькі хвілін моўчкі, блудзячы позіркам па нукатаму чыстаму зерню.

„А іць тады яго ў адзін засек ссыпаць трэ' будзе, у адзін засек..."

Зноў падгарнуў пад сябе ногі, падгроб пад калены мякіны і пачаў веяць. Ад веялкі далёка адлятала і клалася паўкругам, як махаў рукою, чыстае зерне. Уперадзе перад ім паціху слалася ў паўкруг мякіна.

У хату Клемс прыйшоў з гумна позна. Жонка сказала нешта ветліве насустрэч яму і хутка паставіла на стол страву. Ад таго, што зьвеяна жыта і ад таго, што цёпла ў хаце, у Клемса быў добры настрой.

Пасьля вячэры ён вышаў напаіць каня. Падклаў каню ў яслі сьвежага сена. Калі клаў сена, конь усунуў галаву ў яслі і, разгортваючы галавой сена, шукаў у ім смачнейшых каліў. Не знайшоўшы, пачаў церціся галавой аб руку гаспадара. Клемс пахлопаў далоньню каня па падбародзьдзю, правеў рукой па яго шыі пад грывай.

„Да іць і цябе, брат, тады ў адну кучу..."

Конь на словы гаспадара зафыркаў, узяў губамі некалькі каліў сена і пачаў жаваць яго.

Калі Клемс зьвярнуўся ў хату, жонка была на печы, клалася спаць. Ён распрануўся, сеў на лаўцы насупроць печы і пачаў разувацца. Захацелася пагутарыць з жонкай.

— Гэта-ж прыяжджаў зноў той...

Жонка пазірае моўчкі.

— Яй бо...

— Чаго яго носіць?

— Хоча ўсё-ткі ўламаць нашых.

— Так і ўломіць! Хай пачакае трошкі... І для каго ён стараецца толькі.

Старая пачынала злаваць. Клемс як скінуў адзін бот, так і сядзеў, не разматваючы анучы.

— Для сябе стараецца, для людзей... І ўламае. Ты думаеш не?

— А хто ета пойдзе?

— Людзі пойдуць. Чаму не пайсьці?

— Можа і ты вось пойдзеш? Га?

— А хіба я горшы за другіх? Я вось і думаў... Мы сёньня з Яўсеям раіліся. Можна і пайсьці. І Тодар бы пайшоў, і Раман, і Арцём...

Жонка насьцеражылася.

— І ты з ім у кунпаніі?.. Здурнеў вось!. Чаму разумныя людзі ня йдуць? Нябось Пятро ды Сузон ня пойдуць...

— Іх і ня прымуць, хоць-бы і хацелі.

— Ня прымуць! А ты і рад, што цябе прымуць. Кожнага дурня прымуць, абы йшоў...

Яна села на печы, зьвесіла на запечак ногі.

— Розуму недзе набраўся, пойдзе ўжо... Табе, канечна, першым лезьці ў гэта, ня ведаючы што будзе. Век свой ты так. Як што,—дык ён наперад: я тут, мяне! Асэсар ты такі... Пайдзі. пад'ясі вось хлеба там, можа, дась бог, паспытаўшы назад зьвер, нешся... Паспрабуеш як гэта кішкі сьвіныя мэтрамі дзеляць".- Ідзі...

— Ды чаго ты разыйшлася? Які гэта дурань кішкі дзяліў? Можа яшчэ і вас там дзяліць будуць, у каго жонкі няма?..

— А мо' й не? А што людзі кажуць, паслухай!

— У-у, што-б цябе з людзьмі такімі...

А старая ня сьціхала. Раззлаваная яна хутка сыпала словамі.

— Дабро ўбачылі, рады, што іх просіць туды нейкі чорт лазаты. А чаму ён сам ня йдзе? Сам толькі езьдзіць ды ўгаварвае. Хай бы-ж самі такія камісары раней ішлі, хай бы-ж у горадзе раней калектывы рабілі, дык не, яны з мужыкоў усё хочуць... Пайдзі вось, здурней на старасьці...

Клемс усё так-жа сядзеў з аднэй разутай нагою. Добры настрой зьнік, як яго й ня было. Зьявілася злосьць на жонку.

— Вось намалола, каб табе язык прысох! І чаго ты толькі бурчыш? Захочу—пайду і цябе ня спытаю...

— Не спытаеш? А ці я часьніца ў двэрэ?

— Я табе такую чась задам, што і месца ня знойдзеш... Пятро ёй хеўра...

— А табе Арцём...

— Маўчы! А то ботам кіну!..

— Дык і ты-ж маўчы, мурмоль стары, ня думай, што ты разумней за ўсіх!..

Клемс паправіў на назе анучу і зноў абуў бот. Потым узяў кажух і не распранаючыся лёг на лаўцы тварам да сьцяны.

* * *

Гэта быў трэці сход пад рад. І з кожным сходам упарцей людзі. Калі на першым сходзе Бязьмежны зрабіў даклад, сход маўчаў. Ніхто нічога ня пытаў, ніхто не пярэчыў і не згаджаўся. Гэта спалохала. Баяўся, што нічога ня выйдзе.

„Раз маўчаць, значыць ня згодзяцца"—падумаў ён. Але параншоў пачакаць. Скруціў папяросу і вышаў на ганак пакурыць. Усьлед вышаў немалады ўжо мужчына і таксама закурыў. У хаце ўзьнімаўся гоман.

— Угаварваеце, таварыш, усё?..

— А што?

— Ды, як сказаць... Страшнавата трохі. Мы думалі ўжо пра гэта, раней яшчэ думалі... Каб хто першы пайшоў, ці як...

— Чаму каб хто? А сам ты, дзядзька, чаму ня хочаш першым? Вазьмі яшчэ каго і пайдзі...

— Я ня супроць, але першым, гэта брат ня наша... ніколі я ня бачыў. А тут наслухаюцца на людзях рознага і страшаць яшчэ...

Бязьмежны зьвярнуўся ў хату. Як толькі ён зайшоў за стол, гамонка ў хаце сьціхла. Тады ён парашыў, што трэба будзе прыехаць яшчэ.

— Дык што-ж гэта маўчыцё? Га?

— А чаго гаварыць,—азваўся нехта.—Ты пагаварыў, а мы—паслухалі

— Дык мо' падумаем да другога сходу, калі так?..

— Да ўжэ-ж, падумаем,—загуў сход.

— Думалі ўжо й да гэтага,—азваўся мужчына, які разам курыў на ганку.

Хутка сход разыйшоўся. А ў другі раз сход пачаўся з гарачых спрэчак. Як увайшоў у школу Бязьмежны, сяляне спрачаліся

па.іж сабою. Але як сказаў ён колькі слоў, дык становішча зьмянілася. Сход пачаў спрачацца з ім. Гавораць ад сходу, спрачаюцца, двое: Клемс і Яўсей. А сход згаджаецца, дапаўняе, растлумачвае. Амаль поўная ноч прайшла ў спрэчках і паехаў Бязьмежны зноў ні з чым, хаця ўжо ведаў, што справа выйдзе.

Гэты сход, трэці, пачаўся таксама са спрэчак. Але спрэчкі былі яшчэ больш гарачыя. Бязьмежны па спрэчках адчуваў, што сход нібы абараняецца, нібы яго вось-вось ужо ў колектыў уключаюць і дагадваўся, што сход перажывае момант, які вырашыць яго, Бязьмежнага, перамогу. Спрэчкі ўжо йдуць і ў самым сходзе, спр чаюцца і з агрономам, як прыехаў.

Бязьмежны ў перапынках між спрэчак піша на паперках заявы для сялян аб прёме ў колектыў. Агроном пазірае на заявы і сьмяецца:

— Дарэмна пішаце толькі, ня пойдуць яны...

— А я кажу, што пойдуць, сёньня-ж пойдуць, і ўсёй вёскай.

-- Ня веру я...

— Пабачым...

А спрэчкі ня сьціхаюць. У самым сходзе яны цяпер ужо. Аднекуль з кута крычыць у бок стала нейчы голас:

— Ты, таварыш, сам запішыся, камісараў сваіх гарадзкіх запішы, а то добра з портфэлямі ды пэнсіяй максымальнай за колективы крычаць!..

— А мы пабачым, ды ўсьлед!—падтрымаў другі голас.

У дзьве гадзіны ночы Бязьмежны пацёгся за сталом, выкінуўшы ў бакі рукі, узьняўся.

— Дык мо' годзе ўжо, грамадзяне, зробім, каб мне больш ня езьдзіць да вас з угаворамі? А?

Выступіў наперад пасьля гэтых слоў Клемс.

— Так, годзе. Што яно будзе, тое будзе. Але горай як было, ня будзе, бачым па ўсяму гэта. А калі горай—разойдземся, самі робім, самі й разбурыць зможам. Але я не да таго кажу, каб разбурэць. Рабіць, дык каб назаўсёды...

Ён зьняў шапку, хацеў перахрысьціцца на абразы, але сустрэўся в мі з Бязьмежным і працягнуў руку за алоўкам.

— Давай мне паперку.

На заяве, дзе паказаў пальцам Бязьмежны, Клемс паставіў алоўкам тры касыя крыжыкі.

— Я сам хачу запісацца, каб ня йсьці назад, калі што.

І абярнуўся на хату да Аўсея:

-- Ідзі, кум, пішыся...

Да стала падышоў Яўсей, зьняў шапку і хуценька два разы перахрысьціўся, а на заяве вывеў два кружочкі:

— А гэта маё будзе...

Як падпісваўся Яўсей, некалькі мужчын і кабет выйшлі з хаты. А ўсе Палошкавічы, шэсьцьдзесят з лішнім двароў, падыходзілі да стала і ставілі пад заявамі подпісы. У хаце стаяў гоман, не разабраць было, хто што гаварыў. Нехта крычаў ад дзьвярэй:

— Ідзеце, пішыцеся, паспытайце хлеба колектыўскага!.. Крык гэты загубіўся ў гомане непачутым.

А калі ўсе падпісаліся і Бязьмежны з радасным тварам сабраў голкай заявы і паклаў іх да пратаколу сходу, сход змоўк, але не разыходзіўся.

— Мо' начальства абярэм сабе, усёроўна ўжо спаць некалі,— азваўся нехта.



**— Маўчы, а то ботам кіну!..**



**— А чаму ён сам ня йдзе? сам толькі езьдзіць ды ўгаварвае.**

— А мо'б другім разам?..

— Цяпер давай!—адгукнуўся сход,—каб адразу ўсё скончыць.

Абралі праўленьне колектыву. Клемса абралі старшынёю.

— Ды я-ж ня ўмею, што я рабіцьму там?—пярэчыў ён.

— Кіраваць будзеш!

— На работу загадваць!

— Ня ўмею я. Сыном сваім умею, а ўсім, сялу, ня ўмею...

Але скамячыў шапку, засунуў яе ў кішэнь армяка і сеў за сталом.

Калі праўленьне з Бязьмежным села наўкол стала, каб параіцца, што рабіць далей, сход не разыходзіўся, густа абступіў стол і маўчаў, назіраючы за першым пасяджэньнем праўленьня.

Цяпер усе нібы адпачывалі пасьля вялізарнае ношкі, якую перанесьлі праз гэтыя дні.

А на дварэ пачынаўся дзень.

На ганку, пацягваючыся пасьля будкі, пазяхаў з піскам сабака.

* * *

Да каляд чатыры дні.

Апошнюю ноч Клемс ніяк ня мог заснуць. Успамінаў Бязьмежнага, момант, калі падпісваў заяву і хацеў перахрысьціцца і нешта вырашаў. А раніцою зьняў абразы з кута і паклаў іх у печ спаліць. Калі жоўтыя язычкі полымя забегалі па намасьленых фарбах портрэтаў Ільлі прарока і іверскай божай маці, ён узяў чапялу і крыху ўзьняў іх над полымем, каб хутчэй згарэлі. Папера згарэла хутка, застаўся чорны, нераскіданы попел і палаючыя сухія рамы. Тады ён закінуў чапялой рамы за дровы, каб гарэлі не на вачу, пацёр чапялой попел ад паперы і дунуў на яго. Чорныя кавалачкі згарэўшае паперы ўзьняліся і рассыпаліся па палаючых дровах і ў полымі зусім зьніклі.

„У колектыў—дык якія тут абразы. Аднаго чаго трэба трымацца",—праказаў ён ціха, нібы сам сабе.

Жонка моўчкі таўкла ў ступе семя. Пасьля пачала замешваць сьвіньням цеста і злосна браскала чыгунамі, конаўкай аб вядро. У вёсцы амаль усе здымалі абразы. Яна гэта ведала і пагэтаму маўчала.

Заставаўся адзін дзень да каляд.

Клемсіха з унукам пайшла ў ток набраць мякіны. Унук Семка, дзесяцігадовы белявы хлапец, стоячы на каленках, напіхаў у мех мякіну і рукой утоптваў там яе. Час ад часу ён узьнімаў да твару руку і запыленым рукавом сьвіткі абціраў нос. Клемсіха насыпала свой мех. Яна зірнула на ўнука, узьнялася і сваёй рукой абцёрла яму нос.

— Замурзаўся ты ўвесь, ня тры носа рукавом, балець будзе...

Семка зірнуў ёй у твар і ўсьміхнуўся і правёў яшчэ раз рукавом пад носам. Старой захацелася пагутарыць з унукам.

— Вось, Семачка, у колектыве й богу не даюць памаліцца, абразы паздымалі ды папалілі... бяз бога ўжо жыцьмем...

Семка ўзьняўся, патрос мяшок аб ток, націснуў на яго тулавам.

— А на чорта тыя абразы, бяз іх абыйдземся... Яшчэ тое й з царквою будзе...

І зарагатаў нешта.

Клемсіха як стаяла сагнуўшыся над мякінай, зьбялела, схапіла ў жменю мякіны і са злосьцю і з усёй сілы кінула на Семку, але мякіна рассыпалася, а Семка зноў зарагатаў.

— Ах ты, паскуда, злодзей ты, лузан здаровы, каб табе... Я табе пакажу, я табе.

Не хапала слоў. Губы дрыжэлі ад злосьці. Вочы сачылі, чымбы ўдарыць Семку. А ён зьмеціў намер старой, узяў мяшок і выбег з току. Паспела толькі выйсьці за вароты.



**... Усе Палошкавічы, шэсьцьдзесят з лішнім двароў, падыходзілі да стала і ставілі пад заявамі подпісы...**

Непадалёк ад гумян на ўзгорку шэрая высокая цэркаўка. У царкве гэтай тры гады ў год поп правіць: на міколу васеньняга, на тройцу, ды на Пятра й Паўла, а яшчэ бывае там, як памрэ хто.

Каля царквы на могілках ня высокія бярэзіны, а над імі, белы, у сьнягу, купал і крыж шэры ў белай сьнегавой куч мцы.

Клемсіха ўжо каторы раз пaціху, каб ніхто ня бачыў, выходзіць за ток і сьпяшаючыся моліцца на цэркаўку.

Калі Семка з мяшком схаваўся ў дварэ за хлевам, яна зайшла ў ток, закруціла свой мех, як несьці, паставіла яго каля варотніцы і выйшла за ток у сьнег.

Перад вачмі ў яе да цэркаўкі ўсьнежанае белае поле, чыстае, нібы кужэльным выбеленым абрусам засланае.

Над полем кружацца і кладуцца паціху на сьнегавую мяккую ўсьцель белыя лятуны сьняжынкі. Лятуць і кладуцца яны бесьперастанку.

Клемсіха пазірае на царкву, а сьняжынкі мятусяцца ў позірку перад вачмі, расьцягваюцца ў тоненькія белыя касьнічкі, з іх і пляцецца вялізная заслана. Заслана гэтая захоўвае царкву. Крыж і купал і ўся царква нібы ў тумане і нібы дрыжыць памаленьку.

Клемсіха стройвае зьмерзлыя пальцы, падтыкае імі-ж косы пад хустку, каб ня засьцілі вачом, хрысьціцца і шэпча:

— Божачка, бацюхна міласьлівы. Ужо-ж абразы твае сьвятыя скідаюць, ужо й мой дурны стары спаліў абразы... Я не за сябе, божачка, а за яго дурнога малюся... Абразы папалілі, да цябе, божачка, дайшлі ўжо, не шануюць і твайго сьвятога імячка, раства сусавага не прычакаліся... божачка...

Шэпча і хрысьціцца. А сьняжынкі нібы нарошна шпарчэй мятусяцца, кружацца і ўсё ад гэтага дрыжыць, усё наўкола спавіта белай засланай.

У Клемсіхі дрыжаць павекі; падае сьнег на іх і на вочы напłывае сьлязьлівая муць. Ёй здалося, што дрыжыць, хістаецца на царкве крыж. Узіраецца яна, перастала маліцца, але думае, што гэта ад таго, што недабачыць трохі. Яна працірае вочы, абціpae з павек сьняжынкі і хоча паднесьці яшчэ раз руку да ілба, але рука спынілася каля губ, растапырыліся пальцы на руцэ, разявіўся сам неяк рот. Крыж на царкве захістаўся зноў, пахінуўся ў адзін у другі бок некалькі разоў і павольна, растапырыўшы ў бакі канцы, нібы зьбіраючыся ляцець, упаў на купал, бразнуў па бляшаному даху і паляцеў у сьнег. А замест крыжа высунулася з купала жэрдачка і як толькі высунулася, вецер разматаў і пачаў гуляць у гары над царквою кавалкам чырвонага палатна. Жэрдачка хістанулася некалькі раз над купалам і потым моцна стала на месцы, як раней крыж.

Клемсіха апусьціла руку, выйшла са сьнегу і, забыўшыся на мякіну і на тое, што не зачыніла варот у таку, зірнула яшчэ раз на царкву і подбежкам кінулася ў двор.

З-за пляча бачыла, мітусіўся ў табуне сьняжынак, казалак чырвонага палатна. Ногі яе коўзаліся па вузенькай сьлізкай сьнежцы, пападалі ў бок, у мяккі глыбокі сьнег. Сьнег набіраўся ў чаравікі. Яна падабрала рукою спадніцу і ступаючы аднэй нагой па сьнежцы, другой у сьнег, азіраючыся на царкву, ішла ў двор. У дварэ каля студні Клемс паіў каня. Калі жонка напуджаная, са спалохам на твары, спынілася на дварэ, ён пусьціў вядро, ступіў крок уперад і намерыўся нешта спытаць у яе. А яна ўспомніла спаленыя абразы, дагадалася аб нечым і, крыху нагнуўшыся ў бок Клемса, злосна плюнула ў яго і пашла ў хату. Моцна стукнулі ўсьлед ёй дзьверы. Бразнула аб дзьверы і зазьвінела новая клямка.



**... І пачаў гуляць над царквою кавалак чырвонага палатна...**

Фото С. Гербаноўскага




**ЧЫРВОНАЙ АРМІІ—УЗБРОЕНАМУ АТРАДУ СУСЬВЕТНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ ПРЫВІТАНЬНЕ!**

**На малюнках: Зьверху**—страляюць простай наводкай на блізкай дыстанцыі. **Ніжэй**—гарматы наведзены для страляньня па далёкай мэце. **Яшчэ ніжэй**—на адпачынку ў Ленінскім куту. **Зьлева**—служба сувязі. Сыгналізацыя сьцяжкамі. **Унізе зьлева**—мэтэоралёгічная служба ў Чырвонай арміі: пускаюць шар-пілёт. **Справа**—Камандзірская вучоба: за кіпрэгелем.

# БУЙНЫМІ КРОКАМІ

Нарыс Я. СКРЫГАЙ  Фото Багамолава

Гнуцца дарогі па ўзгорках, рыпіць пад палазамі сьнег—едзеш—ліпнуць, прыціскаючыся да зямлі сёлы; ляскі, парасьнік гібее па лагчынах, а дарога прападзе, зноў выпроствaецца і канца ёй няма. І сёлы, і сёлы, і лагчыны, і прылескі—вёрстамі, сельсаветамі—прасторы колгасу „Бальшавік Беларусі імя ЦК КП(б)Б“. У колгасе сорак чатыры насялёныя пункты. Трыццаць тысяч гектараў зямлі.

Цэнтрам колгасу зьяўляецца мястэчка Родня. Маленькае, нягеглае мястэчка. І пазнаць яго можна па тым, што стаіць у ім белая цагляная царква, а на царкве, замест крыжу, сьцяг чырвоны калыхаецца ветрам. Гэта новы раднянскі нардом. Культурны сельсавецкі асяродак.

Дрэнна жылося некалі ў Родні. Сабраліся працоўныя яўрэі яшчэ ў 1919 годзе і на панскай зямлі зрабілі арцель імя Розы Люксэмбург. Тады збоку, па шляху ў Клімавічы, яшчэ другія будынкі кольцам пасталі—арганізаваўся новы яўрэйскі колгас „Прогрэс“.

У першым было пяць сем'яў. У другім—шаснаццаць.

Зашныпарыліся колгасьнікі па зямлі.

Год другі... да 1929 жывуць. Маемасьць, гаспадарка расьце, і бачаць сяляне кругом: разам, колектыўна жывуць і ня горш за іх. Працавітымі, сумленнымі аказаліся яўрэі-колгасьнікі, і калі пачалі арганізоўваць вялізны трыццацёхтысячны колгас—самі заявілі, што разам, у адно зьліцца трэба і разам працаваць.

— Мы-ж на людзях, на вачох скрозь жылі, яны самі бачылі, што мы не гультаі, а мазалём сваім усё набывалі,—кажа колгасьніца яўрэйка Заранкіна,—дык яны зразу і сказалі, што хочуць разам з намі жыць. А тым яшчэ лепш. Што-ж мы варт былі-б адны маленькаю жменькаю.

„Прогрэс“ і „Роза Люксэмбург“ уліліся ў 7.000 членаў колгасу „Бальшавік Беларусі“.

---

Гнуцца дарогі па ўзгорках, рыпіць пад палазамі сьнег—едзеш—не абагнаць сельсавецкіх вёрстаў.

— Зразу нас здорава цкавалі,—кажа хурман-прогрэсавец,—мне самому тры разы будавацца даводзілася. Паправішся, акрыяеш крыху—возьмуць дый спаляць. Ой, цяжка даводзілася нам...

Ён расказвае, якая крутая была дарога іхнага колгаснага жыцьця. Сьмяяліся кулакі, радаваліся тады. Перашкаджалі, нацкоўвалі скрозь і прарочылі скорую сьмерць.

З горкі крута павярнулі санкі. Захропалі капыты па вылашчанай селавой вуліцы.

— Захады,—кажа хурман,—а унь і абагульваюць.

На рагу ў завулку натоўп людзей. Мужчыны, бабы ў вышкрайчастых магілеўскіх кажухох. Па калені анучамі паўкручаны ногі—мякка ступаюць лапці па натоптаным сьнезе. Натоўп гудзе, шавеліцца. Шныпарацца пад нагамі дзеці.

Двор застаўлены санямі, вазкамі. На версе—дугі, хамуты, падсядзёлкі, аброці. Пырхаюць у хлява абагуленыя пастаўленыя ўжо коні. Ацэначная камісія вокам прыкідае вартасьць пазважанае маемасьці. У кароткім паўкажушку пісар, сагнуўшыся над зэдлікам, па чарзе выгуквае:

— Сані!

— Восем,—адказвае з натоўпу камісія.

— Хамут!

— Дванаццаць.

— Дуга!

— Дзевяцьдзесят капеек.

Старанна запісвае пісар сказаную камісіяй цану. Пахукае на пальцы, патрэ адна аб адну рукі і—зноў зашоргае аловак.

— Хто далей?

— Аўдзеенка Апанас, пішы!

— Што ў цябе?

— Ды ўсяго па крысе. Пішы!

Зноў выгуквае пісар. Зноў адказваюць з натоўпу.

Жартуюць бабы. У камісіі іншы раз сьмешнага чаго-небудзь запытаюцца, а тады і мужчыны слова дарэчы прыкінуць.

— А скажэце, калі от я ў сваты захачу паехаць—ці дадуць мне каня,—пытаецца, сьмяючыся, хлапчына.

— А як-жа, ды ня твайго здохлага, а самага лепшага, што ў Тамашовых забралі,—адказвае за камісію нехта.

— Ну, то і добра. А я думаў, што ўжо і не жанатым астануся.

— Цяпер дзяўчаты ў сваты езьдзіць павінны, а ня хлопцы—па-новаму.

— Іг-га, не дачакаецеся,—падзадорваюць дзяўчаты.

На двор узьехаў стары камлюкаваты чалавек. Чорная была некалі барада—сівіца густа папраскакала. Паблыталася густымі кучаравымі ніткамі.

— І ты, дзед, прыехаў?

— З бабаю нават... Злазь, баба, ды на шлюб хадзі.

— Давай, давай.

Падступілася камісія да вазка. Падсунуў бліжэй зэдлік пісар

— Конь!

— Шэсьцьдзесят.

— Вазок!

— Дванаццаць.

— Хамут...

— Дуга...

— От і абвенчаны мы з табою, старая. Злазь з воза, чаго сядзім, ды хадзі пацалуемся.

У жартах, паволі вырвалася тая з нягеглых сукаватых рук, а растапыраны яны былі шырока, здавалася—каб не раздушыць гэтае старэнькае няпрыкметнае бабулькі.

— Кончана? У Васькоўку цяпер. Камісія!

На вуліцы сустрэлі напакаваныя плугамі, баронамі сані. У Родні арганізавана вялікая кавальская арцель.

Абагулены інвэнтар везьлі рамантаваць.

У Васькоўцы захапіў вечар. Папрыносілі ліхтары мужчыны. З пазапрэгванымі коньмі папрыяжджалі. Зноў выгукваў пісар, зноў адгуквалася ацэначная камісія. Два вялізныя гумны спаражнілі—тры дні стойлы, яслі рабілі—зрабілі агульныя вялізныя стайні.



Будуюць агульную вялізную стайню.

---

— З насельнем у нас бадай кончана, — кажа старшыня колгасу Сьмялоўскі,—толькі з ачысткаю крыху кепскавата—не хапае машын. Тры з палавінаю сельсаветы, а ўсяго шэсьць машын. На тры зьмены думаем працаваць. Абяцаюць прыслаць элеватар, тады другая рэч, а так вельмі цяжка. Гэта добра, што ў нас самі сяляне; беднякі сьвядомыя, дык у арганізацыйнай рабоце нам куды лепш, як другім.

От па абагульваньню працуе 20 брыгад...

— Раней кулакі шмат перашкаджалі. То агітавалі, то паклёпы рабілі, а тады разбазарваць жывёлу пачалі. Прабавалі і стралязь... А гэта, як страцілі грунт, беднату, дык цяпер на хітрыкі пашлі—стараюцца ў колгас пралезьці. Так і пруць, ды такімі добранькімі пасталі, як авечачкі. Як абагульваеш—першы вызываецца, самы найпрыкладнейшы колектывісты. Некалькі і ў нас пралезла, але пачысьцілі. Шмат яны папсавалі нам. І яшчэ псуюць...

Старшыня лажыцца на лаву. Ные загіпсаваная пакалечаная нага.

— Натрудзіў,—кажа ён.—Натузаешся так за дзень, а тады хоць адсякай. Сёньня здорава давялося ваяваць. Яшчэ пробуюць арудаваць—раскулачвалі. Нам здорава цяпер памагаюць студэнты.

Над Клімаўшчынаю, над „Бальшавіком Беларусі“ маскоўскае беларускае студэнцкае зямляцтва ўзяло шэфства. „Бальшавік Беларусі“ будзе месцам, дзе маскоўскія студэнты будуць праходзіць практыку. Вясною будуць прысланы тры агрономы і дасьледчая экспэдыцыя. Будзе зроблена дапамога трактарамі, кадрамі, партыйнымі сіламі, консультацыяй. Сёлета зямляцтва адпусьціла 2.000 рублёў.

А гэта прыехала сем чалавек—ударная брыгада.

Па выгіністых магілеўскіх дарогах штодзень яны рассыпаюцца па сёлах, каб, зрабіўшы вялікую справу, паехаць назад, на вучобу, ведаючы, што задача, узложаная на іх, выканана. Не адны студэнты. У „Бальшавіку Беларусі“ моцны свой мясцовы актыў. Шчыльна нітуецца вакол партыйных і комсамольскіх сіл бедната. Таму цяжка паварушыцца цяпер кулаком і падкулачнікам. Хоць анёламі прыкідаюцца яны, але клясавым чуцьцём перадавое колгасьніцкае часткі распазнаюцца яны.

Хіба паверылі Людагоўскаму, кулаку з хутара Бярозаўка, Раднянскага сельсавету, што ён бедненькі, што ў яго нічога няма? Ён скардзіўся, хваліўся лапцямі, а пад падлогаю, у печах, за абразамі аказалася пахаваным сала, мяса, палотны, сукно, аўчыны ды гібель усялякага дабра.

На ўсякі выпадак Людагоўскі схаваў туды-ж і зброю— паразьбіраўшы часткамі—наган, бярданку, патроны. А зразу Людагоўскага можна было прызнаць за старца і яму паспачуваць.

— Гэта жонка... Яна ў мяне заўсёды ўсё крадзе ды хавае.. я і сам ня ведаў,—апраўдваўся Людагоўскі—Як мне з ёю, скажэце, разлуку ўзяць?

Нават „разлуку“ гатоў узяць. І гатоў... пайсьці ў колгас.

А кулак Кашынскі сыстэматычна езьдзіў па сёлах. Рабіў „пасяджэньні“.

І яшчэ. І не адзін Кашынскі. І многімі спосабамі.

Кашынскага сама бедната застала за „работаю“. Застала і „прыкрыла“ як сьлед.

Кожнаю раніцаю—па выгіністых магілеўскіх дарогах—рассыплюцца комсамольцы па сёлах.

— Абагульваць?
— Ага. Хто брыгадаю, хто па адным.
— Мяне куды?
— У Грышына.
— Мяне?
— А мяне? — пытаецца судзілаўская комсамолка, што асталася адна.

Ня ў крыўду, а так, проста думалі—няхай адпачне. Сказалі:
— Ты дахаты.
— Чаму дахаты? Каб мне брыдка было?

Пакрыўджаная іціха адышла ўбок. Горка стала—паволі крайком хустачкі выцерала выпырснутую сьлязінку.

Ссыпаюць абагуленае насеньне.

— Я дахаты не пайду. Калі ў вас няма работы—пайду ў сельсавет, сьпіскі рабіць.

Узялі. Паехалі разам.

У Папкове на сход сабраліся. Уступаць у колектыў. Студэнт Федасенка робіць даклад. Праціскаюцца ад парога на сярэдзіну. Слухаюць.
— Ды што і казаць. Знаем. Мала што яна...
— Дай я хачу.
— Ламан?
— Ламану даць. Гавары.

На куфры седзячы, з чорнаю доўгаю барадою, загаманіў Ламан.

— Вот каліціў. А ці добра гэта будзе? Скажам, я от трыццаць год жыву і бачу ўжо. Улетку надыдзе, гэта, хм·ра—ідзе, ідзе, а глядзіш—дыхнула ветрам і пашыбала хмара ўбок. І скрозь у нас сухэча гэтая—ніколі дажджу ня бывае. Ну, а як у каліціве, як нам усім недарод такі будзе?

— Ну і сказаў,—зарагаталі мужчыны.

— Па-твойму ў каліціве горш хмары ня пойдуць ці псавацьмуць больш?

— Чакайце. Чаго тут і гаварыць доўга. Хмара. Ну, скажам, у цябе недарод—і ва ўсіх недарод, а хто-ж табе даваў тады? Нек-жа жыў. Ня толькі-ж твая палоса высыхала. А гэта разам, а калі ў тваім Папкове хмары ня дойдуць, ды няшчасьце якое—Родня паможа, разумееш? Гэта-ж каліціў адзін... Нашоў што гаварыць.

— Ну, добра.—Ламан порстка саскочыў з куфра, на сярэдзіну хаты вылузаўся. Растапырыўся, шапку на патыліцу адагнуў.

— Добра, одэта, скажам,—прысеў, па масьцічыных рукою завадзіў,—одэта, скажам, твой шнур, а гэта мой, а гэта Грышачкоў. Калі мы па адным жылі, дык кожны па сабе гной клаў, а ў таго не хапіла можа, дык і так было. І расло—на тваім шнуры, скажам, як сьцяна, а на маім хоць вошы бі, вот, а цяпер разам, дык як-жа тады будзе расьці, пакуль шнуры гэтыя зраўнуеш? На тваім, скажам, была бульба—ты навазіў гною, а на маім тры гады гола, ну? Што-ж цяпер выбіраць гэтыя пустыя шнуры ды гной падвожваць? Як?

— Ты зноў, Ламан, як малы. Што ты нават гэтага не разумееш,—у шэрай сьвітцы, сярэдні каржакаваты чалавак тлумачыць пачаў. Падтакнулі другія, расказалі, што глупства гэта, не пра гэта цяпер гаварыць трэба. Назад, да куфра падаўся Ламан. Зноў на патыліцы—шапку паправіў, ужо адтуль сказаў:

— Я, браццы, стары. Я так гэта думаў, перашкода якая, ніто што. А калі гэта нічога, дык чож думаць—я першым іду. Раз вучоны чалавек нават кажа (Ламан да студэнта павярнуўся), дык што ён, скажам, гібла нам хоча. . Нічага і гаманіць,—закончыў ён.

Доўга яшчэ талкавалі. Абралі ўдарную брыгаду, каб заўтра хлявы агульныя пачаць рабіць. Ламана—конюхам некалі ў салдатах быў—на ўсіх самым старэйшым конюхам абралі. Вялікае гумно ў Мацейчыка, сказалі—сена да другога перавезьці, а там—заўтра ў лес—ды каб і стайні былі.

На відне, на золку пайшлі па хатах.

Трыццаць тысяч гектараў...

Цэнтрам колгасу—мястэчка Родня. Маленькае, нягеглае мястэчка. І пазнаць яго можна на тым, што стаіць у ім белая цагляная царква, а на царкве, замест крыжу, сьцяг чырвоны палыхаецца ветрам.

На белым лісьце паперы агроном Ашурак накінуў плян. Маленькімі кружочкамі пааднатоўваў насялёныя пункты. Сорак чатыры кружочкі. Дзесяць буйнейшых—дзесяць падцэнтраў.

— Трэба будзе зрабіць так—кажа Ашурак,—каб была нейкая сыстэма. Усе сорак чатыры насялёныя пункты разаб'юцца на 10 гаспадарак ці, інакшай кажучы, эканоміі. Кожная такая гаспадарка аб'ядная сабою ад 3 да 5 сёл. Гэта будуць вузлавыя пункты колгасу і—у залежнасьці ад умоў - будуць па-свойму спэцыялізавацца. У Родні, скажам, тэхнічныя прадпрыемствы: млын, крухмала-пашачня. У другіх гаспадарках, дзе добрая паша, будзе концэнтравацца малочна-продукцыйная жывёла прамысловага значэньня. Тут,—Ашурак ткнуў алоўкам, — выгаднае месца—будзе сьвінагадоўчая гаспадарка. Тут пчаліная, а адна—выключна птушкаводная. Сёлета вясною,—падняў галаву, перадыхнуў агроном.

— Сёлета вясною закладаю першы пробны інкубатар у 50.000 курэй. Думаю папрабаваць перш на простых, а тады—завадзкія.



Вязуць у колгас малатарню, веялку, авечак, канюшыну ды іншае дабро з раскулачанае гаспадаркі.

Доўгімі сухарлявымі пальцамі згарнуў, пагладзіў паперку. Хусьцінкаю працёр акуляры, падумаў, дадаў:

— Пакуль што будзе цяжкавата. Вясною-ж пушчаем цагельню, каб з свае цэглы ставіць будынкі. У першую чаргу стайні ды гумны патрэбны. У кожнай гаспадарцы, экономіі трэба ставіць скотныя двары, каб пaступова сёлы сьцягваць у цэнтр, а старыя сёлы пакуль што будуць лічыцца рабочымі пасёлкамі. Засявацца сёлета вясною будзем яшчэ па сёлах, але колектыўна.

— У кожнай гаспадарцы працавацьмуць ударныя брыгады па сваёй спэцыяльнасьці. У выпадку слабае нагрузкі яны перакідацьмуцца на другія работы. Прыблізна вось так і будзем пачынаць працаваць...

Прыблізна вось-так...

З вясны пачынаецца новае жыцьцё, пачынаецца новая дарога—дарога ўгору—аграмаднае складанае гаспадаркі „Бальшавіка Беларусі“.

# У КРАІНЕ БЕЛАГА ТЭРОРУ

**А. СТАЛЕВІЧ**

Даволі сказаць: край белага тэрору, турма народаў, каб стала зразумелым, што гутарка ідзе аб фашыстаўскай Польшчы. Гэтае ганебнае азначэньне вырасла з кароткага, але крывавага капіталістычна-абшарніцка-кулацкага панаваньняў Польшчы; панаваньня, адзначанага дзікай эксплёатацыяй і сваволяй пануючых клясаў, разьюшанага белага тэрору, разгулам поліцэйшчыны. Кароткая дзесяцігадовая гісторыя па-вэрсальскай Польшчы крывавіцца бязупыннымі расстрэламі дэманстрацый, масавымі арыштамі, масавымі палітычнымі працэсамі, разгромам масавых арганізацый. У фашыстаўскай Польшчы звыш 10 тысяч палітвязьняў, дзесяткі, сотні расстрэленых, закатаваных выдатнейшых салдат рэволюцыйнай арміі (Ботвін, Бялы, Гібнэр, Райхман і шмат, шмат іншых).

У апошнія часы асабліва яскрава пацьвярджаецца і тое, што Польшча зьяўляецца найбольш слабым зьвяном у ланцугу міжнароднага капіталізму. Гаспадарчы крызыс, у ціскох якога корчацца ўсе капіталістычныя дзяржавы, найбольш глыбока, яскрава і шпарка выяўляецца ў Польшчы. Важнейшыя адзнакі трэцяга пэрыоду, як расклад капіталістычнай гаспадаркі, нарастаньне рэволюцыйнай хвалі пры пашырэньні ўплыву компартыі, маюць найбольш выразнае выяўленьне менавіта ў фашыстаўскай Польшчы.



**Тав. В. ХАРУНЖАЯ, засуджаная на 8 год катаргі. Сядзіць у вастрозе Фордон.**

Працоўныя масы на чале з пролетарыятам і яго компартыяй разгортваюць контр-наступальнае змаганьне супроць узмоцненага вызыску і прыгнячэньня пануючых клясаў, супроць ускладваньня ўсяго цяжару гаспадарчага крызысу на плечы працоўных мас. На некаторых вучастках клясавых баёў пролетарыят раз за разам з большай сілай штурмуе фашыстаўскую дыктатуру.

Тэрор, зьяўляючыся неадменнай прыладай фашыстаўскага рэжыму, служыць ураду Пілсудзкага галоўнай зброяй у змаганьні з рэволюцыйным рухам рабочае клясы, працоўнага сялянства Польшчы і працоўных мас падняволеных народаў. Зразумела, што цяпер, калі ідзе шпаркае нарастаньне элемэнтаў непасрэднай рэволюцыйнай сітуацыі ў Польшчы, белы тэрор набывае больш востры і масавы характар. Фашыстаўская дыктатура ня хоча і ня можа задаволіць патрэбы і дамаганьні шырокіх працоўных мас. Фашыстаўскі ўрад прадбачыць магутныя клясавыя баі, ён ідзе агнём і мячом на рэволюцыйны рух рабочых і працоўнага сялянства, на іх кіраўніка—компартыю.

— Страляць па комуністых!—крычаў з асьцервяненьнем з соймавай трыбуны міністр унутраных спраў Складкоўскі. Гэты крывавы клік спраўна праводзіцца ў жыцьцё поліцыяй і фашыстаўскімі бандамі.

„Кур'ер Віленскі" паведамляе, што ўрад будуе новыя спэцыяльныя танкі, дапасаваныя для курсаваньня па вуліцах гарадоў. Танкі гэтыя маюць куляметы, атрутныя газы для падаўленьня масавых выступленьняў рабочых.

Актыўнейшы ўдзел, лепш кажучы падзел роляй у фашыстаўскім тэроры прымаюць агенты фашызму, як ППС, Бунд, украінскія і беларускія нацыянал-фашысты, якія сваімі баёўкамі, сваёй провакацыяй, шпіонажам і даносамі наносяць удары як у лоб рэволюцыйнага руху, так і знутры яго.

Галоўныя ўдары белага тэрору накіраваны супроць авангарду рэволюцыйнага руху—компартыі. Разумеючы, што змаганьне працоўных мас пад кіраўніцтвам компартыі давядзе да перамогі гэтых мас, да пагібелі капіталістычнага ладу, фашызм прымае ўсе меры, каб фізычна зьнішчыць комуністых, робіць гэта з мэтай, каб вырваць з карэньнем компартыю з працоўных гушч, пазбавіць іх рэволюцыйнага кіраўніцтва, запрэгчы іх у калясьніцу сваёй палітыкі эксплёатацыі, вайны, голаду, беспрацоўя і дарагоўлі.

Фашыстаўская дыктатура белым тэрором, крывавым насільствам над працоўнымі і эксплёатаванымі масамі прачышчае сабе шлях да контр-рэволюцыйнай вайны супроць СССР. Ленін адзначаў, што вышэйшай ступеньню гвалту буржуазіі і найбольш яскравым яго выяўленьнем зьяўляецца імпэрыялістычная вайна. Таму на Заходняй Беларусі, як плацдарме надыходзячай вайны супроць СССР, найбольш разьюшаны белы тэрор. Жалезны кулак фашызму крывёй працоўных мас упісвае ўсё новыя, усё больш крывавыя старонкі ў жудасную гісторыю акупаванай Заходняй Беларусі.

Поліцэйскі і экономічны тэрор разьюшана разгульвае па фабрыках, маёнтках, вёсках. Найменшае выяўленьне з боку працоўных мас абурэньня, масавасьці клясавага змаганьня цяпер выклікае ўзброены наскок поліцыі, цяпер нямінуча канчаецца крывавай лазьняй, цяпер пераходзіць у схватку, у малую вайну паміж працай і капіталам.

На Заходняй Беларусі няма гораду, дзе не адбываліся-б масавыя процэсы. За апошнія некалькі гадоў прайшлі дзесяткі процэсаў супроць рабочых і працоўнага сялянства, якія абвінавачваліся ў прыналежнасьці да компартыі. Хто не памятае вядомыя процэсы „133", „33", „500", „46", „59" і г. д. Абвінавачаныя, як правіла, трымаюцца як сапраўдныя рэволюцыянэры і на судох у сваіх баявых выступленьнях (В. Харунжая, Гелер, Эпштэйн, Клышко і шмат інш.) выносяць свой клясавы прысуд фашыстаўскім судзьдзям, прысуд, які зьдзейсьніць надыходзячая пролетарская рэволюцыя ў Польшчы. Цяпер-жа фашыстаўскія судзьдзі, спасылаючыся на выдуманыя паказаньні провакатараў Гурынава, Бабіча і іншых, прысуджваюць лепшых змагароў да 8—15 гадоў вастрогу. Ужо масавасьць гэтых процэсаў, нязломнасьць рэволюцыйнай волі палітвязьняў гаворыць пра размах і глыбіню рэволюцыйнага руху на Заходняй Беларусі, аб вялікім уплыве компартыі, гаворыць таксама пра жорсткасьць і разгул фашыстаўскага белага тэрору.

Дэклярацыя беларускіх, украінскіх і польскіх радыкальных партый і комуністычнай пасольскай фракцыі, пададзеная ў сойм, так характарызуе панаваньне фашызму на Заходняй Беларусі: „Гісторыя змаганьня рабочых і сялян Заходняй Беларусі, што змагаюцца за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, зьяўляецца непарыўнай пасмай крывавых пагромаў, катаваньняў, вастрогаў, катаргі. Няма на Заходняй Беларусі аніводнай вёскі, якая-б не аплаквала сваіх найлепшых сыноў—ці забітых праз поліцыю і войска, ці кінутых на доўгія годы ў вастрогі. Няма на Заходняй Беларусі аніводнага рабочага і працоўнага селяніна, які ня чуў-бы на сваёй скуры зьдзекаў і катаваньня польскай дэфэнзывы; няма на Заходняй Беларусі кутка, дзе не разьлягаўся-б стогн і енк беларускіх рабочых і сялян, катаваных за тое, што хочуць сваёй уласнай культуры, што дабіваюцца свайго соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня.



**ДВАРЧАНІН — пасол Бел. Сял.-Рабоч. Пасольскага Клюбу, забіты поліцыяй на дэмонстрацыі 1-га мая ў Вільні.**

Фашызм пры актыўнейшай дапамозе беларускіх нацыянал-фашыстых, на чале якіх стаіць А. Луцкевіч, вядзе плянавыя сыстэматычныя пагромы масавых радыкальных організацый, прасьледваньне наймалейшага выяўленьня опозыцыйнасьці да ўраду.

Сьвежай ранай дыміцца дзікі разгром беларускай Клецкай гімназіі і фашызацыя яе пры дапамозе Луцкевічаўскай хэўры. Барыкаднае супраціўленьне вучняў гімназіі скончылася поўным іх разгромам і арыштамі.

У пачатку лютага месяца зноў пракаціліся цэлая хваля масавых арыштаў, вобыскаў па сакратарыятах Бел. Сельраб. клюбаў па Віленшчыне і Навагрудчыне. Рэпрэсіі адбываюцца пад знакам выкарчоўваньня „выврутовых" элемэнтаў і комуністых.

Радыкальная беларуская прэса да гэтага часу, хоць з белымі каленкамі, але прабівалася так-сяк праз фашыстаўскую цэнзуру і конфіскацыі, а цяпер зусім закрыта. Ніводнага друкаванага радыкальнага слова да мас не даваляе выпусьціць фашызм і гэтым прачышчае дарогу для беларускай контр-рэволюцыйнай нацыянал-фашыстаўскай прэсы.

# СССР—на замежнай выстаўцы

На апошняй выстаўцы, што адбылася нядаўна ў Страсбургу ва Францыі, савецкі павільён карыстаўся вялікім посьпехам. Як сьведчаць замежныя корэспонданты і прэса... „савецкі павільён толькі адным сваім знадворным выглядам выклікаў эсабліва прыемнае ўражаньне. Сам будынак сваёй орыгінальнай конструкцыяй і прыгожай композыцыяй фарбаў нязьмерна мацней прываблівaў да сябе наведвальнікаў, чым павільёны іншых краін. Наплыў наведвальнікаў быў такі значны, што ўжо на першы-ж дзень давялося рэгуляваць рух у гэтым месцы“... (Эрнст Эрман, Гамбург).

За організацыю павільёна і стандаў СССР у цэлым і 25 гаспадарчых організацый паасобку атрымалі вышэйшую нагароду. Архітэктура і конструкцыя павільёна, які быў пабудаваны паводле проэкту архітэктара М. Валодзька, атрымала ганаровы дыплём. Орыгінальнасьць сконструяваных форм месьціцца ў крыжападобным пасьлядоўным члененьні форм і нахілаў даху, якія далі магчымасьць роўнамерна асьвятляць залі выстаўкі і максымальна скарыстоўваць роўніцы сьцен для разьмяшчэньня экспонатаў пры параўнальна нязначнай вышыні памяшканьняў.





На здымках: савецкі павільён на выстаўцы ў Страсбургу.

---

У часе ўжо трэцяга процэсу над Тарашкевічам, які адбыўся 24 студзеня, працоўныя масы Вільні наладзілі шэраг дэмонстрацый па вуліцах гораду. Ня гледзячы на тое, што паліцыя і фашыстаўскія баёўкі разганялі дэмонстрантаў, усё-ж рабочыя ў значным ліку прабіліся пад сьцены Лукішак і там быў наладжаны баявы мітынг. Выступаўшыя паслы Крынчык і Дварчанін і шмат дэмонстрантаў былі моцна пабіты і паранены.

Наогул, фашыстаўскі ўрад паслом беларускага сялянска-рабочага клюбу забараняе ладзіць мітынгі. Аднак паслы, апіраючыся і маючы шырокае падтрыманьне працоўных мас, ламаюць гэтыя фашыстаўскі закон, ладзяць справаздачныя мітынгі па гарадох і вёсках.

Мітынгі гэтыя канчаюцца заўсёды схваткай з паліцыяй і фашыстаўскімі бандамі. Усе чатыры паслы—Крынчык, Дварчанін, Гаўрылік і Грэцкі былі па некалькі разоў цяжка зьбіты і паранены штыхамі і кулямі.

Фашыстаўскі тэрор не дасягае сваёй мэты. Наперакор фашызму, социял-і нацыянал-фашызму уплыў компартыі з кожным разам шырыцца, рэволюцыйны рух становіцца на вышэйшы ўзровень, працоўныя масы ўсё больш стойка і рашуча даюць адпор падрыхтоўцы фашызму да нападу на СССР. На ўзброеныя крывавыя наскокі паліцыі шэрагі дэмонстрантаў ня толькі рассыпаюцца, а яшчэ больш зьнітоўваюцца, наносяць контр-удары і нярэдка дружным напорам атрымліваюць часовую перамогу ў гэтых схватках, у гэтай малай вайне паміж працай і капіталам.

Гэтыя факты гавораць пра тое, што фашыстаўская дыктатура штурмуецца працоўнымі масамі на чале з компартыяй, штурмуецца ўсё больш рашуча і з усіх бакоў.

У росьце клясавай рэволюцыйнай сьвядомасьці працоўных мас ляжыць застава таго, што надыходзячую контр-рэволюцыйную вайну супроць СССР гэтыя масы ператвораць у вайну супроць капіталістых, абшарнікаў і кулакоў у абарону сваёй пролетарскай бацькаўшчыны.

---

# ЮБІЛЕЙНАЯ ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

*Дванаццацігодзьдзю РСЧА прысьвячаю*

Радзеюць змрокі ночы
І цемры гіне мох.
Адважна ўсе мы крочым
Да новых перамог.

Прагналі прыганятых мы
І ўюцца думкі роем...
Імчыцца сьпеў над хатамі
І над заводаў строем.

Прад нашым юбілеем,
Сьвяточна-ясным днём,
Скрозь лютага завеі—
Бадзёрыя ідзём.

Вясеньнімі трызвонамі
Нясецца па зямлі:
— Армію Чырвоную
Нікому ня схіліць!

Яна прайшла віхуры,
Байкал і Перакоп;
Яе ня гнулі буры,
Хоць кроў цякла ракой.

Мы помнім, як зарніцамі
Цьвіла тады тайга,
І ў стэпу травы ніцыя
Пляла ў вянок туга.

Там белая навала
Раджала жах і стогны.
Разьбілі адмірала,
Прагналі і барона...

... І ў дні блакітна-роўныя,
Калі гудуць станкі,
Яшчэ жывуць бунтоўныя
У сэрцы агонькі!

Няхай у бойках ранамі
Акрыліся ўсе скрозь—
За край Савецкі станем мы
Пунсоваю зарой!

І выйдзем дружна ротамі,
І будзе ўшчэ іспыт:
І брэхі кулямётавы,
І цоканьне капыт...

Пакуль-жа дні суровыя
Ня змыюць ўсіх граніц—
На рубяжох сталёвая
Вартаўнікам стаіць!

ЮРКА ЛЯВОННЫ




Апавяданьне Н. БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА

Малюнкі М. Філіповіча

Вечарэла.

З боку мора дзьмуў моцны вецер. Ён узьнімаў з тротуараў гораду і з надбярэжжа прыстані цэлыя хмары едкага і сухога вугляного пылу, які, назольна кружачыся ў паветры, залазіў пад каўняры вопратак, у насы і ў вушы.

У порце замірала жыцьцё. Важна гойдаючыся на ўзварушаных буйнай морскай зыбʼю хвалях стаялі туга прымацаваныя якарамі і тоўстымі канатамі да берагоў судны усіх велічынь, усіх краін і ўсіх нацый. Качалі сваю цяжкую доўгую працу грузчыкі. Сьпешна рыхтаваліся да выхаду на бераг у выгафтаваных золатам мундзірах афіцэры, матросы, качагары і іншы пэрсонал параходаў-волатаў, якія плаваюць ува ўсіх частках зямной кулі. Усім хацелася найхутчэй пакінуць хоць на час свае судны, набрацца на беразе сьвежых уражаньняў. Усім


...Качалі сваю цяжкую доўгую працу грузчыкі...

хацелася пагуляць, як прывыклі гуляць матросы, калі атрымліваюць яны, нарэшце, доўгачаканы яшчэ ў моры дазвол зьехаць на бераг.

Тады да позьняй ночы, а іншы раз дык нават і да самага дня, дым каромыслам стаіць на вуліцы сьвятога Лаўрэна і на сумежных з ёю маленькіх і паўцёмных завулках.

Грымяць хрыпла і надарвана аўтоматычныя машыны, з прыкраю монотоннасьцю адстукваючы мотывы брыдотных танго і вальцаў. Насьцеж адчынены дзьверы шматлікіх кавэрняў, бітма набітых галоўным чынам чужаземнай кліентурай. Круцяцца пʼяныя ўспацелыя пары танцораў, льлецца ракой таннае і дарагое віно, разьменьваюцца тут-жа ля стойкі ангельскія і амэрыканскія крэдыткі на францускія франкі.

А яшчэ больш шматлікія, чым кавэрні, вулічныя жанчыны ўсьміхаюцца матросам, ласкава заклікаюць іх, адна перад аднэй стараючыся знайсьці на гэты вечар шчодрага і багатага кавалера.

Жыцьцё шуміць ручаём у гэткі вечар на вуліцах і завулках партовага гораду. Зьнябытыя ў моры па берагавым жыцьці людзі, нафарбаваныя і цынічна шчырыя вулічныя жанчыны—усё гэта круціцца, верціцца ў віхры танца, пʼе і скандаліць, плача і сьмяецца.

Хворая гэта, цяжкая гэта, калі ўдумацца, вясёласьць. Вясёласьць, якая хутчэй нагадвае стогны... Сьмех, які хутчэй да сьлёз падобны.

* * *

Вось менавіта ў адзін з такіх вечароў, як дзьве кроплі вады падобных адзін да аднаго—у адзін з такіх вечароў адзінока ішоў па вуліцы сьвятога Лаўрэна малады гаўрскі [1]) грузчык Эт'ен Марсэль.

Ён ішоў, бязуважліва аглядаючыся па баках і спыняючыся амаль перад кожнай кавэрняй, нібы намерваючыся ўвайсьці туды. Але пастаяўшы з хвіліну ў глыбокім раздумʼі перад адчыненымі дзьвярыма і пазьвінеўшы многазначна медзякамі, якія ляжалі ў яго левай кішэні, ён ішоў далей, з зайздрасьцю пагля-даючы на пары, што танцуюць і весяляцца ў кавэрні.

Зайсьці сёньня яму нельга. Пара су [2]), якая яшчэ была ў Эт'ена, патрэбна была яму на яго бедную вячэру, на тую маленькую талерачку падсмажанай на алею бульбы, якую ён спадзяваўся атрымаць у няпрытульным і досыць брудным рэсторане цёткі Жэнэвьевы.

— Аднаго су не хапае на бульбу, разважаў Эт'ен, ідучы ўніз па вуліцы сьвятога Лаўрэна. Але добра, можа ўпрашу старую шатэнку паверыць мне ў доўг. Гэта-ж ці жарты, заўтра, пасьля двохмесячнага перапынку, мы ізноў бярэмся за працу.

Трэба сказаць, што арцель грузчыкаў, да якой належаў Эт'ен Марсэль, складалася амаль уся з комуністых, комсамольцаў, унітарцаў [3]) альбо з рабочых, якія так ці іначай спачувалі рэволюцыйнаму руху. Таму гэта арцель лічылася ў партавога начальства вельмі дрэннай і заўсёды атрымлівала працу толькі ў самую апошнюю чаргу.

— Амаль што толькі савецкія судны і разгружалі, разважаў сам з сабой Эт'ен, уваходзячы ў дымны рэсторан цёткі

[1]) Гаўр—францускі порт.
[2]) Су—дробная француская монэта.
[3]) Унітарцы—члены рэволюцыйных профсаюзаў Францыі.

Жэнэвьевы. З таварышамі з Савецкага Саюзу згаворышся—і ёсьць праца. Ды толькі вось шкада, што трапляюць іх судны ў наш порт ня вельмі часта.

— Шчасьце наша, што гэты ангельскі параход зайшоў у Гаўр, як раз, калі ўва ўсіх іншых арцелях працы па горла,—мармытаў сабе пад нос Эт'ен Марсэль, прабіраючыся праз пярэсты натоўп да цёткі Жэнэвьевы, каб папрасіць у яе доўгатэрміновага крэдыту.—А то інакш-бы—бачыць нам гэту работку, як свае вушы.


... А тут вы кулямёты ў скрынках грузіць будзеце...

Цётка Жэнэвьева была сёньня ў добрым настроі. І яна ласкава згадзілася пачакаць з грашыма за порцыю бульбы да заўтрашняга вечара.

* * *

— Здароў Эт'ен.

З зьдзіўленьнем глядзіць Марсэль на здаравеннага нэгара, што сядзіць насупроць яго і ўсьмяхаецца на ўвесь свой шырокі рот.

— Дзе бачыў я ўжо гэтага вярзілу?—думаў ён і ня мог успомніць.

— Мая працавала з табой у Шэрбургу [1]) па разгрузцы вугалю. мая добра цябе толькі мят е.—гаварыў на дрэннай французскай мове нэгар, хапаючы руку Марсэля і моцна яе паціскаючы.—Мая завецца Самбэ-Амед... вялікі Самбэ. Цяпер памятаеш?

— Памятаю, памятаю.—радасна кінуўся Эт'ен да таварыша па леташняй рабоце.—Цяпер добра памятаю.

— Дзе працуеш?

— Нідзе,—хмура адказаў вялікаму Самбэ Марсэль, падрабязна расказваючы яму пра час свае пакуты ў Гаўры.

— А мая цяпер добра працуе, мая шмат грошай зарабляе,—хваляючыся гаварыў нэгар, моцна стукаючы сваёй шырокай, чорнай, як сажа, рукой па кішэні.

І ён расказаў Эт'ену, што працуе ён цяпер на ангельскім параходзе „Каралева Вікторыя", што ідуць яны цяпер з Шэрбургу, а накіроўваюцца кудысьці вельмі далёка да кітайскіх берагоў.

— А мы як раз ваш параход заўтра нагружаць будзем,—сказаў Марсэль.—Наша арцель, бачыш, атрымала, нарэшцэ, сякую-такую работку.

Самбэ-Амэд не захацеў так проста разьвітацца са сваім прыяцелем, якога выпадкова сустрэў у Францыі. Тут-жа ў рэсторане ў цёткі Жэнэвьевы ён пачаставаў яго лепшым, што толькі там было. А потым пацягнуў яго з кавярні ў кавярню, з бістро ў бістро [2]).

— Самбэ хітры, Самбэ ўсё бачыць,—гаварыў на вуха Марсэлю позна ўночы п'яны нэгар.—У Шэрбургу вялікія гарматы салдаты на наш параход грузілі. А тут вы кулямёты ў скрынках грузіць будзеце. Кітай з Расіяй ваюе, дык вось...

— Якія кулямёты? Адкуль ты ўсё гэта ведаеш?—нэрвова запытаўся ў вялікага Самбэ Эт'ен, моцна, да болю, сьціскаючы яму руку і нізка нахіляючыся да яго твару.—Якія кулямёты?

— Хе-хе-хе, французскія,—блытаючы языком адказаў яму нэгар, няўграбным рухам рукі перакульваючы на мармуровы столік кавярні шклянку з віном.—Яшчэ сягоньня раніцою капітан гаварыў вартавому афіцэру: вось тут вы будзеце грузіць кулямёты? А я стаяў за дзьвярыма і чуў.

— Дык вось яно—якія харчовыя продукты вы грузіце для Кітаю.—Злосна праз сьцятыя зубы шаптаў Эт'ен Марсэль, шпарка ідучы па амаль пустэльнай ужо вуліцы сьвятога Лаўрэна.—Пачакайце. мы ўжо выкінем вам штуку.

Паволі, змагаючыся з ночнаю цемрай, надыходзілі досьвіткі. Спаць ня было калі, ды і не да таго было цяпер Эт'ену Марсэлю. Ледзь пасьпеўшы насунуць на сябе сваю рабочую блюзу, ён пабег у порт, дзе ўжо, ня гледзячы на раньнюю пару, пачалі зьбірацца яго таварышы па арцелі.

* * *

Сабраліся, каб схавацца ад злоснага ветру пад паветцыю аднаго з блёкгаўзаў. Чакаць, пакуль прыдзе майстар і паставіць на работу, трэба было яшчэ доўга—добрых дзьве гадзіны. Але грузчыкі прышлі раней, бо ведалі: майстар чакаць іх ня будзе і не пасароміцца замяніць таго, хто спазьніўся, кім-небудзь з боку.

А ў заробку, хоць самым маленькім, хоць самым ня сталым, у гэтых людзей адчувалася вялікая патрэба. Доўгае бадзяньне бяз працы моцна ўдарыла па іх, асабліва па іх сем'ях.

— Няўжо мы будзем грузіць кулямёты, з якіх потым кітайцы будуць страляць у нашых рускіх таварышоў?—нэрвова пытаўся малады комсамолец Эт'ен Марсэль у грузчыкаў, падрабязна расказваючы ім пра ўсё, што чуў ад Самбэ-Амэда. Няўжо за пару заробленых франкаў [3]) мы сягоньня зробімся злачынцамі? Не, гэтага ня будзе.

— Ня будзе, ня будзе,—падтрымлівалі Эт'ена грузчыкі.

— Зараз-жа адмовіцца ад працы.

— Лепш галадаць, чым стаць здраднікам.

— Пачакайце, таварышы,—заўважыў на гэта адзін з грузчыкаў—шыракаплечы рабочы гадоў пяцьдзесят, родам з Марсэля [4]). Пачакайце, таварышы. Канешне, грузіць кулямёты для Кітаю мы ня будзем, гэта ясна кожнаму з нас. Ну, а калі нэгар памыліўся. што тады?

— Запатрабуем контроля, няхай адкрыюць пры нас некалькі скрынак на ўдачу,—пасыпаліся з усіх бакоў прапановы.

— На гэта адміністрацыя параходу ніколі ня згодзіцца,—запярэчыў нехта з натоўпу.

— Тады і працаваць ня будзем. Справа будзе ясна, калі адмовяцца.

— У мяне ёсьць другі плян, таварышы,—далучыўся да гутаркі малады Эт'ен Марсэль.—Грэгуар гаворыць правільна. Чорт яго ведае, можа мой нэгар і памыліўся наконт кулямётаў. Тым больш, што ён сягоньня ўночы быў дужа пад мухай. Але ўва ўсякім разе праверыць трэба, бо справа вельмі сур'ёзная.

— Што-ж ты прапануеш, Эт'ен?—нецярпліва пыталіся з усіх бакоў комсамольцы грузчыкі.—Гавары хутчэй.

— Я прапаную пры разгрузцы вагонаў. альбо пры нагрузцы на параход, нібы зьнячэўку, разьбіць адну скрынку. Тады і ўбачым, што там ёсьць. Калі кулямёты, ці што іншае з вайсковых прыпасаў—зараз-жа усёй арцельлю абвяшчаць забастоўку. Калі-ж не, калі там сапраўды харчовыя прыпасы і мануфактура—тады працуем. Разаб'ю скрынку я, таварышы.

— Добрая ідэя!

— Малайчына Эт'ен!

— Няхай так і будзе!

На гэтым парашылі. І з нецярплівасьцю сталі чакаць майстра.

* * *

— Майна! [5])—монотонна крычалі наглядальнікі на палубах параходаў і на беразе.

— Віра! [5])—адказвалі ім праз пэўны прамежак часу заглушаныя галасы з параходных трумаў.

Працавалі лябёдкі. Выгружаліся вагоны экспортных тавараў. Разгружаліся глыбокія трумы акіянскіх волатаў ад сыравіны, якую прывозілі з далёкіх краін і колёній для патрэб фабрык і заводаў Францыі. Гарачы працоўны дзень у гаўрскім порце пачаўся.

— Бачыш. якія цяжкія скрынкі,—нездаволена бурчэў Эт'ен, разам з трыма іншымі грузчыкамі заняты разгрузкай вагону.—Цяжкая мануфактура.. Эх, чорт.

Няёмкі рух і скрынка ляціць з вагону на зямлю, разьбіваючыся аб краі задняга кола на кавалкі.

— Браткі, ды тут кулямёты,—крычыць Эт'ен, саскокваючы з вагону і зараз-жа зьбіраючы вакол сябе натоўпы грузчыкаў. Ну, і мануфактура-ж пайшла...


— Браткі, ды тут кулямёты,—крычыць Эт'ен саскокваючы з вагону...

З разьбітай на трэскі скрынкі сапраўды сароміліва выглядаў навюткі, толькі што прысланы з фабрыкі, кулямёт, сталёвая руля якога ярка зьзяла на сонцы, якое выплывала з-за хмар.

— Кітайскім генэралам дапамагаеце!

— Новую вайну выдумваеце!

— Супроць краіны саветаў ідзеце!

Крычыць абурана натоўп грузчыкаў, абступіўшы кулямёт і злосна размахваючы рукамі.

— Спыніць працу!

— Ня хочам грузіць зброю кітайскім генэралам!

— Забастоўка, забастоўка!..

Вестка аб знойдзеным у скрынцы з „мануфактурай" кулямёце абляцела ўвесь порт, робячы сэнсацыю. І не знайшлося ў Гаўры ніводнай арцелі грузчыкаў, якая згадзілася-б, нават за вялікую плату, нагрузіць параход „Каралева Вікторыя" гэтым таварам.

Так і давялося ангельцам пакінуць Гаўрскі порт бяз новенькіх французскіх кулямётаў.

---

[1]) Шэрбург—ваенны порт у Францыі.
[2]) Бістро—карчма.
[3]) Франк—10 кап. на нашы грошы.
[4]) Марсэль—порт; горад паўднёвай Францыі.
[5]) Майна і віра—угору і ўніз (морскія тэрміны).



# ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ Ў АГР



У ЛЯСОХ СІБІРУ, У СТЭПОХ УКРАІНЫ, НА ПАЛЁХ БЕЛ РУСІ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ, БІЛА КАПІТАЛІСТЫХ, БІЛА БУРЖУАЗІЮ НАША ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ, АРМІЯ РАБОЧЫХ І ПРАЦОЎНЫХ СЯЛЯН. СКОНЧЫЛАСЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА, АЛЕ ПАКУЛЬ НЯ ЗЬНІШЧАНЫ КЛЯСЫ, НЯ СКОНЧЫЦЦА КЛЯСАВАЯ БАРАЦЬБА. ЧАРГОВАЯ БАЯВАЯ ЗАДАЧА ПРАЦОЎНЫХ САВЕЦКАГА САЮЗУ—ЗЬНІШЧЫЦЬ КУЛАЦТВА ЯК КЛЯСУ. ГЭТАЯ ЗАДАЧА ВЫРАШАЕЦЦА ПАД КІРАУ-









На малюнках характэрныя моманты дзей

Зьлева, зьверху—чырвонаармейцы будуюць абору для абагуленае жывёлы ў колгасе імя КІМ'а (вёска Слабада, Заслаўск Койданаўскага раёну, на Меншчыне. Яшчэ ніжэй—рамонт сельскагаспадарчага інвэнтару колгасу імя КІМ'а (в. Слабада). У брыгадай кавалёў у часе аграпаходу (вёска Макаўшчыцы). Ніжэй зьлева—важаць ачышчанае насеньне. Правей:—бр

Ніжэй—чырвонаармейцы рамантуюць трактар (Койданава). Яшчэ ніж

# ...МІЯ Ў АГРАПАХОДЗЕ

...ЦТВАМ ПАРТЫІ НА ФРОНЦЕ КОЛГАСНАГА БУДАЎ-...ЦТВА. РОСТ І ЎЗМАЦНЕНЬНЕ КОЛГАСАЎ ЗАБЯСЬПЕЧ-...Е НАМ ПЕРАМОГУ НАД КАПІТАЛІСТЫМІ ЎСЯГО СЬВЕТУ. ...СЬ ЧАМУ НАША ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ НЯ МОЖА СТАЯЦЬ І НЕ СТАІЦЬ У СТАРАНЕ АД КОЛГАСНАГА БУДАЎНІЦТВА. У ЛЮТЫМ МЕСЯЦЫ ЧАСЬЦІ ЧЫРВОНАЕ АРМІІ ВЫЙШЛІ Ў АГРАПАХОД, КАБ СВАЁЮ ПРАЦАЮ ДАПАМАГЧЫ БЯДНЯЦКА-СЕРАДНЯЦКІМ МАСАМ СЯЛЯНСТВА Ў ІХ БАРАЦЬБЕ ЗА СОЦЫЯЛІЗМ.











...ьці Чырвонай арміі ў часе аграпаходу.

...раёну, на Меншчыне). Ніжэй:—брыгада цесьляроў ладзіць дацкія кармоўкі для колгаснае аборы ў вёсцы Макаўшчыцы, ...прэдзіне зьверху—плугі і бароны, папраўленыя і падрыхтаваныя да веснавое пасеўнае кампаніі чырвонаармейскай ...ада па ачыстцы насеньня каля трыера. Справа зьверху—Койданаўская трактарная колёна. Выпрабаваньне трактараў. ...—штаб аграпаходу разам з кіраўніком колгасу імя КІМ'а ў в. Слабада.

# ПАД ПЯТОЮ БАЯР

**Нарыс Г. РУГЕРА**

Дванаццаць гадоў назад, 26 студзеня 1918 году, румынскае войска генэрала Аверэска окупавала Бэсарабію

О! канечна, гэта было толькі „часовай“ окупацыяй. Канечна, „адважнае“ войска румынскіх баяр „ратавала“ бэсарабскіх сялян ад „зьверстваў бальшавікоў“. Канечна, яны выконвалі гэтай окупацыяй „вялікую гістарычную місію“, баранілі Эўропу ад „чырвонай заразы“, ставілі „санітарны бар'ер“ паміж „патануўшай у анархію руйнаваньня Расіяй і культурнымі краінамі Захаду“.

У той час так двурушна запэўнялі грамадзкую думку адказныя кіраўнікі буржуазных урадаў

Вось гэтаму надзвычайны, ня ўзьнімаючы ніякага сумненьня, довад:

Францускае пасольства ў Румыніі. Яссы, 15 студзеня 1918 году.

Ад францускага пасла ў Румыніі—пану Сарэ, францускаму консулу ў Кішынёве.

„Палкоўнік Д'Альбна паведаміў мяне пра жаданьне Савету Генэральных Дырэктароў атрымаць пісьмовую гарантыю, як з нашага боку, гэтак і з боку нашых хаўрусьнікаў, якая-б вызначала мэты ўваходу румынскага войска ў Бэсарабію.

Усе мае колегі, паслы саюзных дзяржаў як і я сам, упаўнаважаны паведаміць вас офіцыяльна, што ўваход румынскага войска ў Бэсарабію зьяўляецца захадам чыста ваеннага характару і мае сваёй мэтай забясьпечыць нормальную дзейнасьць тылу на руска-румынскім фронце, паводле правілаў, устаноўленых усімі дзяржавамі, якія ваююць.

Такім чынам, занядьце румынскім войскам Бэсарабіі **ні ў якім выпадку ня можа мець уплыў на цяперашняе політычнае становішча, ні на лёс гэтай краіны ў будучыне** (падкрэсьлена мною. Г. Р.).

Я ўпаўнаважваю вас офіцыяльна давесьці аб вышэйпаказаным да ведама Генэральных Дырэктароў і ў выпадку іх жаданьня падаць засьведчаную копію гэтай ноты.

Подпіс: Францускі пасол у Румыніі Сэнт-Олер (Францускі тэкст орыгінала быў надрукаваны ў газэце „Стафул-Цэры“ ад 21 студзеня 1918 году).

Мы зусім сьвядома падалі тут поўнасьцю гэты ў шмат якіх стасунках выдатны дакумант. Окупацыя Бэсарабіі румынскім войскам было толькі, як запэўнялі саюзныя ўрады, захадам „часовага характару“; яго мэтай было толькі ў імпэрыялістычную вайну „забясьпечыць нормальную дзейнасьць тылу на руска-румынскім фронце“; гэта окупацыя „ніякім чынам не магла мець уплыву на лёс бэсарабскага народу ў будучым“.

А між тым?

Францускі і ангельскі ўрады ўсяго толькі праз пару гадоў пасьля гэтай „часовай“ окупацыі прызнаюць за Румыніяй (зразумела, за адпаведную ўзнагароду) „права“ на ўладаньне Бэсарабіяй. Да гэтага прызнаньня „законнасьці“ рабунку далучаецца ўрэшце і фашыцкая Італія А парляманты ўсіх гэтых краін ратыфікуюць гэтыя вырашэньні сваіх урадаў.

Варта ўвагі, што францускія соцыял-рэформістыя ўсяго толькі „ўстрымаліся“ ад ратыфікацыі гэтага адкрытага ваеннага рабунку. Якая справа была ім да пакут бэсарабскага рабочага і селяніна, якая справа была ім да таго, што тры мільёны рабочых і сялян Бэсарабіі былі прэданы „хаўрусьнікамі“ румынскім баярам!

Ну, канечна, гэта далучэньне было абстаноўлена адпаведнай „дэмократычнай“ комэдыяй. Падкупленыя або запуджаныя члены бэсарабскай рады, так званай Сфатул-Цэрый, „галасуюць“ за далучэньне... Золата, абяцанкі „цёпленькіх месц“, кулямёты, штыхі румынскіх салдат прымушаюць іх „галасаваць“.



У засьценках румынскае сігуранцы. Падвешаныя.

„Далучэньне Бэсарабіі адбылося ня столькі па галасаваньні Сфатул-Цэрыя, колькі дзякуючы маёй ініцыятыве пасунуць войска за Прут“—так з цынічнай салдацкай адкрытасьцю заяўляў былы галоўнакамандуючы румынскіх войск генэрал Аверэска ў 1928 г. (гл. румынскі офіцыёз „Дрэптаця“ ад 4 мая 1928 году). Каштоўнае, але нікольки нас ня дзівячае, прызнаньне.

І вось ужо дванаццаць гадоў, як нашы браты па клясе—рабочыя і сяляне Бэсарабіі, стогнуць пад пятой румынскіх баяр.

Стогне Бэсарабія пад пятой румынскіх баяр. Стогне, але не здаецца. І адзін за адным успыхваюць паўстаньні па ўсёй краіне, замучаныя зьдзекамі сяляне забіваюць жандарскіх афіцэраў, стражнікаў, масамі эмігруюць у Бразылію, у Аргентыну, ва Францыю.

З тугою глядзяць яны на другі бераг Дняпра, дзе бурна будуе сваё новае жыцьцё краіна Саветаў, дзе няма памешчыкаў, дзе няма баяр.

З тугою глядзяць яны туды... Але закрыты ім яшчэ пакуль дарогі на другі—савецкі бераг Дняпра.

А сігуранца лютуе. Жорсткае ганеньне рабоча-сялянскага блёку, масавыя арышты ў сёлах Аккерманскага і іншых паветаў, Кішынёўскія расстрэлы ў Чырвоны дзень першага жніўня, шматлікія арышты ва ўсіх гарадох Бэсарабіі ў дзень сёмага лістападу—усё гэта гаворыць, што наймацнейшая паласа белага тэрору ў Бэсарабіі цягнецца, усё гэта гаворыць за тое, што ўрад Манцу ніколі не адрозьніваецца ў сваёй політыцы рэпрэсіў ад браціанаўскай зграі.

І нават заядлыя ворагі бэсарабскага сялянства, нават былы румынскі прэм'ер і організатар Жылаўскай бойні, цяпер міністар унутраных спраў Вайда-Ваевод, змушаны былі з вышыні парляманцкай трыбуны заявіць, што „жахлівы быў царскі бізун, але гэта былі жарты ў параўнаньні з тым бізуном, які зараз пануе ў Бэсарабіі. Вырашэньне бэсарабскага пытаньня шляхам прымусу, зьбіеньня, рабаваньня і расстрэлаў бяз суду і сьледзтва—вось што адбываецца цяпер у Бэсарабіі“.

Але вецер абурэньня і ў Бэсарабіі мацнее, сьвяжэе. І быць можа недалёк ужо той час, калі ў шчыльным саюзе з пролетарскай Румыніяй скінуць з сябе путы нявольніцтва бэсарабскія сяляне, калі яны ўсе, як адзін, паўстануць супроць сваіх катаў, скінуць з залатых п'едэсталяў румынскіх банкіраў і баяр.

Тады настане вялікі дзень вызваленьня, вялікі дзень змаганьня—румынскі Кастрычнік.



**Бэсарабскія сяляне, разам з жонкамі і дзяцьмі, арыштаваныя румынскімі окупантамі і сфотографаваныя ў „належным атачэньні“. Дэкорацыя мае на мэце зрабіць належны ўплыў на бухарэсцкіх мяшчан.**

# НА ФРОНЦЕ ЛЕСАНАРЫХТОВАК















**На малюнках зьлева:** вывозка драўніны з лесу. **Ніжэй:** момант падзеньня дрэва: з пасьпешнасьцю вымаюць моторную пілу. **Яшчэ ніжэй:** вывазка драўніны пры дапамозе трактара—цягнік з драўніны. **Унізе:** мэханізацыя лесанарыхтовак—паліўка дарогі. **Справа зьверху:** Крупская шавецкая арцель працуе 1 дзень на лесанарыхтоўках. Заработак пастанавіла ахвяраваць у фонд індустрыялізацыі. **Ніжэй:** Сяляне вёскі Начы, Крупскага раёну, вязуць драўніну на чыгуначную станцыю. Начаўцы пастанавілі прыняць удзел у лесанарыхтоўках усёй вёскаю а заработак ахвяравалі ў фонд трактарнае калёны. **Унізе:** начаўцы на лесанарыхтоўках

# КОМУНАРАЎЦЫ

Нарыс АРТУРА ЛЯХАВЕЦКАГА　　　Фото Ў. Семяняко

Быў верасень месяц, восень гразкая, дождж хлюпае. На вялікім двары за олу будавалася новая вялізарная кузьня. На другім баку двара ляжалі вялізныя жалёзныя колёны, а каля іх працавала брыгада з 20 здаровых шырокаплечых рабочых. Клепка колён для новай кузьні ішла поўным крокам.

— Давай заклёпку, давай яшчэ адну!

Крычалі таму, хто награваў заклёпкі. Апошні хутка браў у жалезныя гарачыя абцугі белапакалёную заклепку, настаўляў яе да дзіркі, і адразу, дзьве цяжкія вялікія кувалды кляпалі па ёй, білі па абжымцы і праз пару хвілін красавалася новая бліскучая заклёпка. Работа падыходзіла да канца. Дах кузьні пакрываўся белай ацынкованай бляхай. Вялікая каменная кузьня яшчэ не працавала., але яе новы магутны, цэмэнтам змураваны будынак, біў новым жыцьцём на вялікім двары заводу. Гледзячы на гэты вялізарны будынак, рабілася ўражаньне, што вось скора забурчаць мэханічныя вэнтылятары, загарыць дробна-разьбіты антрацыт у новых горнах кузьні... Застукаць электрычныя, пнэўматычныя вялікія молаты — яны будуць памагаць людзям каваць гэтае цьвярдое жалеза і сталь... Гэты цэх будзе сапраўдна ўдарным, тут будзе сапраўды адбывацца соцыялістычная праца.



Абточваньне дэталяў машын.

* * *

Па цэхах „Комунару“ многа ўдарных брыгад, іх налічваецца больш 20. У сьлясарна-зборачным — радзіліся дзьве першыя. Гэтыя дзесяць ударнікаў, комсамольцы і комуністыя, гэтыя дзесяць жвавых, бадзёрых, маладых энтузіястаў пачалі пераматваць старую нярухлівую, пад час брудную працу ў новую, энэргічную, добраякасную соцыялістычную працу.

Антось Курылка, брыгадзір гэтых ударнікаў, чалавек сярэдняга росту, гадоў пад 40, з залатымі зубамі замест сваіх, якія калісь выбілі белапалякі. Запаліўшы хладнакроўна люльку махры, ён громка крыкнуў:

— Хлопцы, хто хоча пайсьці ва ўдарнікі? Організуйцеся!

— Вы і мяне пішэце таксама! Мікіцін, пішы, браток.

Мікіцін запісаў усіх, пасьля ўсе ў завадзкім камітэце ганарова падпісаліся і абяцалі быць прыкладнымі ўдарнікамі. Увечары завадзкі камітэт зацьвердзіў першую ўдарную брыгаду на заводзе.

* * *

Яшка Левін, малады ўдарнік, які заўсёды рэзаў жалеза аднэй мэханічнай нажоўкай, сёньня ўхітрыўся рэзаць трыма нажоўкамі.

— Што-ж, — гаварыў ён, — трэба-ж ударна рабіць! — Ён пільна сачыў, калі скончыць рэзаць адна нажоўка, падхватваў кавалак жалеза і падрыхтоўваў яго да рэзкі. Так чарадой усе нажоўкі адна за аднэй і рэзалі. Самым старым ударнікам на заводзе лічыўся Саматаевіч Іван, добра кваліфікаваны, адзін з лепшых рабочых заводу, гадоў пад 50, з акулярамі „мікалаеўскае сыстэмы“ на носе. Ён вынуў зашмальцаваны чорны футарал і ціханька схаваў у іх старыя акуляры.

— Што скажаш, юнак? — павярнуўся ён да хлапца.

— Дзядзька Саматаевіч, пагутарыць з вамі жадаю!

— Братка, пагаварыць з табой сёньня не змагу, штампы, ведаеш, раблю, для малакамераў, можа што ўдасца зрабіць, бо раней з-за межаў прывозілі, у немцаў бралі мы. Золатам плацілі — вось раблю можа што выйдзе.

— Выйдзе, выйдзе, дзядзька Саматаевіч, — упэўнена сказаў Мішка Шмэрдіс — малады комсамолец, адзін з лепшых вытворчых рабочых, старшы інструмантальшчык, які выбіваў на новай бліскучай прагонцы сталёвымі літарамі і лічбамі:

| 1/X 1929 г Завод „Комунар“ |
|---|

Гэта значыла, што гэта прагонка зроблена на гэтым заводзе, гэтай „фірмай“...

Мішка ўжо добра ведаў Саматаевіча, гэтага старога рабочага, які што ня возьме ў свае рукі, заўсёды ўсё зробіць.

— О, колькі штампаў на сваім жыцьці зрабіў гэты стары — думаў Мішка, — і гэта зробіць!

— Ну, вось, братка, — сказаў стары юнаку, — зробім штампы, тады будзем з табою гутарыць, тады будзе „дагонім і перагонім“, як часта вы кажаце!

Ён надзеў свае старыя акуляры, узяў лічны (шліфавальны) напільнік і пачаў паціханьку сморгаць і пілінь па цьвёрдай сталі, хладнакроўная рука яго піліла, і піліла роўна, плаўна.

— Цярпеньне, цярпеньне, — кінуў ён напасьледак і ўзяўся за сваю старанную працу.

* * *

Часам, паважаныя чытачы назіраюцца на заводзе і іншыя „ударнікі“ — так званыя рабочымі „грыбы-ўдарнікі“. Вось гэтыя ўдарнікі „ўдарна“ трацяць час, „ударна“ робяць брак, аб такім вось „ударніку-грыбе“ я хачу тут расказаць...

Сам сябе спытаеш — ну што? Якое датычэньне можа мець грыб да ўдарніка? Грыбы растуць у лесе, а ўдарнікі на заводзе.

Але-ж на гэты раз, як ня дзіўна будзе нашаму чытачу, грыб адзін рос і вырас на заводзе „Комунар“.

Гэты грыб ня просты, не які-небудзь танны падпялёсы мухамор, не, не такі, гэта самы сапраўдны баравічок, з гарэзьлівай, кругленькай галоўкай, быццам кубаначкай адзеты, трохі чырвоненькі і адчуваецца нешта піонэрска-чырвона-дзіцячае ў ім.

Часам шанцуе вось гэтым чалавечым грыбом, часам у іх ня клеіцца праца, дый гэтыя грыбы бываюць розныя: іншыя добрыя, чыстыя грыбы, толькі масла дастаць, так і смажацца яны на гарачай патэльні.

А часам трухлявая, пустая, сярэдзіна грыба так і адчуваецца



Фразэроўка шасьцёрак.

з яго выгляду, такі грыб заўсёды вылучаецца з агульнай масы і выкідваецца...

Вось пасьля гэтага кароткага ўступу, як кажуць, шчыльна падойдзем да справы.

Звычайнае паседжаньне бюро комсамольскага колектыву.

Узьнімаецца невялікая злавесная „фігура“ комсамольца-партыйца таварыша Грыба:

— Таварышы, я протэстую!

— Я знаходжуся ўвесь час на кіруючай працы, я кіраваў піонэр - організацыяй Фрунзаўскага раёну і, калі пажадаў, дык і там праваліў працу. Пагэтаму, таварышы, я жадаю працаваць канкрэтна, ня быць якімсьці агітпропам! Я буду працаваць, але-ж я буду настойваць, каб мяне зьнялі з гэтае працы. Я жадаю канкрэтна працаваць на вытворчасьці!

Яго голас ня ўзвышаецца і, чуецца роўная казытлівая гаворка гэтага каравага грыбка, цішыня... ціха...

— Я прашу слова, я жадаю даць адказ гэтаму агіт-пропке.

— Давай! гавары!—крычаць хлопцы.

Гаворыць малады токар—сакратар комсамольскага колектыву—Міхась Пагосьцеў.

— Давай, давай яму, Міхась, гэтаму канкрэтнаму балдзе, давай, давай,—падтрымлівалі ўсе рабочыя хлопцы заводу...



Сьвідраваньне муфты для ціскоў.

Міхась гаварыў канкрэтна; канкрэтна і гучна зьвінеў яго голас.

— Таму, хто канкрэтна ходзіць спусьціўшы рукавы, губляе рабочы час і адмаўляецца ад комсамольскай працы, тым ня месца ў нашых шэрагах.

Ударнік-грыб, ударнікі-грыбы—вось і такія ёсьць ударнікі на заводзе...

* * *

Вось некалькі невялічкіх малюнкаў з вытворчага жыцьця аднаго з буйнейшых менскіх прадпрыемстваў—заводу „Комунар“. Шмат рабочых працуе на заводзе; іх больш 600 у розных цэхах; розныя людзі, але адна думка. Ліцейшчыкі, токары, сьлесары, бляшаньнікі, кавалі, сталяры, модэльшчыкі, чорнарабочыя і іншыя, на розных працах, на розных варштатах твораць адну адзіную работу...

Заключаюць соцыялістычнае спаборніцтва. Лес рук узьнімаўся ўгару—за спаборніцтва. Праўда, некаторыя хныкалі—дзе-ж нам з „Энэргіяй“ зраўняцца, яна-ж лепш абсталявана,—але напруджваліся і ўпартым крокам уступалі ў спаборніцтва з „Энэргіяй“.

Хлопцы-комсамольцы сьмяяліся—што-ж будзем біцца з беларускім „пуцілаўцам“ на вытворчым фронце... Змагаліся, змагаліся і ўзялі!

Атрымалі чырвоны сьцяг ад ВСНГ і з гонарам упарта ідзем і ідзем да далейшых перамог.

Шмат чаго робяць на „Комунары“, тут і ціскі і каменадрабілкі, што раней прывозілі з-за межаў. Тут розныя мэталюргічныя рэчы, тут і драбілачкі, афарбаваныя ў сіні колер, тут і чорныя ціскі, чырвоныя помпы і помпачкі, усё гэта фабрыкаты і паўфабрыкаты заводу.

Сустракаецца шмат недарэчнасьцяй, няўзгод у працы „Комунара“. Але шмат ёсьць і людзей, поўных энэргіі, непераможнай сілы, якія, узяўшыся за гэтую вялізарную справу, як суцэльная частка вялікага Савецкага Саюзу, будуюць у сябе новае соцыялістычнае жыцьцё.

Гэтых людзей мы часта ня бачым, але гэтыя людзі прыносяць вялікую карысьць нашай краіне. Беларусь лапцёвая, Беларусь вазёр і балот—ператвараецца ў Беларусь індустрыяльную.

І аднэй часткай гэтай новай, індустрыяльнай Беларусі і зьяўляецца нова-пабудаваны мэталюргічны завод „Комунар“—дзіця Кастрычнікавае рэволюцыі.

# Лірыка сталі

Шумліва
і радасна коцяцца хвалі
сталёвай магутнай краіны,
у песьнях
павіты абноўленай сталі...
— Заводы, варштаты, машыны!
З бэтону
і цэглы ўзрастаюць палацы,
з жалеза і сталі расьце трактарбуд
А з ім
ў беларускай краіне
магутныя песьні пяе Асінбуд.
Мы самі будуем
завод за заводам,
за корпусам корпус
штодзенна растуць,
і новыя песьні,
турбінныя песьні
ад гораду к гораду
бурна плывуць.
Дык слухайце-ж песьні
і лірыку сталі,
каб нам захапляцца ў жыцьці.
У хвалях бурлівых,
у хвалях сталёвых
цьвісьці
палымець
і расьці.

ВАЛЕРЫ ШЭМПЭЛЬ.



Апрацоўка дэталяй фосфарытадрабілак да пасеўнае кампаніі ў ударным парадку.

# ІДЗЕ НОВЫ ЧАЛАВЕК

Нарыс Н. ДЗІМЕНШТЭЙН

Гэта было сапраўды хвалюючае, захопліваючае энтузіазмам, відовішча. Вялікая заля клюбу, перапоўненая, прыйшоўшымі на агульна-гарадзкую конфэрэнцыю, жанчынамі—жонкамі рабочых і служачых, што жывуць у Менскіх жактах,—гудзела і шумела. А ў прэзыдыуме, на сцэне цэлая гама пераліваючыхся фарбаў—золата, срэбра, белага і чырвонага мэталю.

Жанчыны—хатнія гаспадыні, жанчыны да гэтага часу ланцугом перажыткаў старога быту зьвязаныя з кухняю, з полкамі, з цэрквамі і касьцёламі, рвуць гэтыя путы, сьмела ўступаюць на новую дарогу.

І зданыя імі на гэтай, організаванай Жанаадзелам і Белжылсаюзам, агульна-гарадзкой конфэрэнцыі ў фонд індустрыялізацыі краіны шлюбныя пярсьцёнкі, падсьвечнікі, ніткі пэрлаў, срэбра і золата яўна гавораць наколькі вырасла за гэтыя гады савецкая жанчына, як не адстаючы ідзе яна нага ў нагу са сваімі бацькамі, мужамі і братамі—будаўнікамі соцыялізму ў савецкай краіне.

Трэці жакт наперадзе ўсіх жактаў Менску. Гэта ён, гэта жанчыны, што жывуць у яго дамох, першыя ўзьнялі пытаньне аб здачы каштоўнасьцяй у фонд індустрыялізацыі, яны першыя і пачалі гэту здачу каштоўнасьцяй.

— Тав. Салавейчык, ёй 80 год,—тлумачыць тым, хто сабраўся, прадстаўніца жакту № 3. Воўк—яна здала ў фонд індустрыялізацыі свае падсьвечнікі, перад якімі яна ня хоча больш маліцца, яна ня хоча больш жыць асобна, яна хоча далучыцца да нашага новага колектыўнага быту.

Але ў трэцім жакце так думае ня толькі адна т. Салавейчык. Восем нітак пэрлаў, падсьвечнікі, самавары—усё аддалі на патрэбы індустрыялізацыі краіны жонкі рабочых і служачых трэцяга жакту.

— Мы яшчэ ня ўсё прынесьлі сюды, —гавораць прадстаўнікі гэтага жакту. —Яшчэ шмат рэчаў здадзім мы дзяржаве.

Не адсталі ад жакту № 3 і іншыя менскія жакты. Вось т. Шчэпіна, рупячыся ўзьнімаецца на трыбуну і здае свой нацельны крыжык. Вось шасьцідзесяцігадовая т. Фукс, з жакта № 12, нясе на трыбуну свае срэбныя падсьвечнікі.

— Вось вам гэтыя падсьвечнікі—громка гаворыць яна.—Не патрэбны яны мне болей... Я хачу, каб мае дзеці жылі панавому, бяз рэлігіі, без ашуканства.

Вось т. Багданава з жакту № 50, якая акрамя каштоўнасьцяй здае яшчэ ў прэзыдыум у фонд індустрыялізацыі краіны 120 рублёў; вось т. Шаркоўская, якая ад імя ячэйкі МОПР'у жакту № 3 аддае ў прэзыдыум некалькі облігацый 25-ці рублёвай вартасьці.



**Хлопчык Коля Салаўёў (мяст. Крупкі) аддае ў фонд індустрыялізацыі свой залаты крыжык.**

А тав. Ратнэр з жакту № 8 заяўляе: „Сход жонак рабочых і служачых нашага жакту даручыў мне сказаць вам, што мы не забыліся пра наш абавязак перад савецкай краінай і што мы сягоньня таксама пачалі збор каштоўнасьцяй.

Адна за аднэй паднімающца жонкі рабочых і служачых... І кожная здае што-небудзь у фонд індустрыялізацыі краіны: шлюбныя пярсьцёнкі, завушніцы, падсьвечнікі...

Каля двох тысяч рублёў такім чынам здалі ўжо жанчыны Менску на дапамогу рэспублікі працы.

Не адставалі ад дарослых і акцябраты. Акцябронак Шульман, пад шумнае ўхваленьне ўсіх прысутных, здае ў прэзыдыум 2 руб.—адзін руб. савецкіх і 2 паўрублі „мікалаеўскіх".

— Я хачу здаць гэтыя грошы, якія мне падарыла бабулька, у фонд індустрыялізацыі савецкай краіны,—заяўляе васьмігадовы акцябронак Шульман.—Я выклікаю ўсіх акцябрат, якія жывуць у жактаўскіх дамох, зрабіць тое самае.

Добры быў гэты сход.

**Царкоўныя прылады—у фонд індустрыялізацыі (У Віцебску).**

* * *

Але клясавы вораг і тут не драмаў. Раззлаваны ўсеагульным энтузіазмам, ненавісьнік усяго новага, усяго савецкага, ён праз сваіх агентаў паспрабаваў і тут паказаць свой подлы контрэволюцыйны твар, паспрабаваў хоць чым-небудзь засмуціць радасьць гэтага доўга незабыўнага вечару пролетарскай спайкі.

— Пажар! пажар!—раптам раздалося з некалькіх кутоў залі. Пачалася паніка. Людзі кінуліся да выхаду; некалькі жанчын абамлела, іншыя біліся ў гістэрыцы.

Але парадак хутка быў адноўлены. Некаторыя з провокатараў былі затрыманы міліцыяй. І мы нікольկі не сумняваемся, што яны атрымаюць заслужаную кару.

Гэты няпрыемны выпадак не парушыў, ня змог парушыць радаснага настрою жонак рабочых і служачых, што сабраліся ў клюбе.

— Нам не патрэбен дурман папоў і рабінаў,—гаварылі дэлегаткі конфэрэнцыі, пакідаючы позна вечаром сьцены клюбу.—Мы хочам ісьці да сьветлай будучыні. А сёньнешні вечар—гэта лішні асінавы кол у рэлігію, гэта пахавальная песьня астачы капіталізму ў нашай краіне. Правільна, таварышы дэлегаткі.

* * *

У бойках, у жорсткіх клясавых бойках, перамагаючы, з пагардаю адкідваючы старое, будуем мы наш новы савецкі быт.

Няма месца ў гэтым быце абразом і шлюбным пярсьцёнкам, малебнам і царкоўным сьпевам. Няма і ня можа быць у гэтым новым быце для замкнутага жыцьця адзіночак, для сям'і, дзе муж-пан, а жанчына раба кухні, пялёнак і ночных пацех. Новыя часы патрабуюць новых людзей; новы, што нараджаецца, грамадзкі лад патрабуе новых грамадзкіх стасункаў.

І гэты новы чалавек ідзе.

Ці-ж вы ня чуеце яго творчую пролетарскую хаду?



Здача каштоўнасьцяй у Жакце № 3 (Менск).

За сталом справа—т. Форына, ініцыятарша збору каштоўнасьцяй. Унізе—старая Салавейчык здала свае падсьвечнікі, адмовілася ад рэлігіі і хоча ісьці ў колектыўную кухню.

# ПА САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ







На малюнку зьлева: самы „стары“ дэлегат зьлёту—рабочы т. Бахраў; правей сакратар ЦК ЛКСМБ тав. Палякоў гутарыць з вясковай дэлегацыяй. Унізе: Наркамзем БССР тав. Рачыцкі гутарыць з піонэрамі-дэлегатамі зьлёту.

На здымку ў версе справа: чырвонаармеец дапамагае колгасьніку ссыпаць ачышчанае насеньне (в. Макаўшчыны) Койд. раёну. Унізе: чырвонаармейцы рамантуюць конскую збрую колгасу „Імя Кім“ (Слабада, Заслаўск. раёну на Меншчыне).







Крупская і Чырэйская больніцы Аршанскае акругі ўступілі між сабою ў соцспаборніцтва. Адным з асноўных пунктаў умовы аб спаборніцтве пастаўлена надвышэньне якасьці абслугоўваньня хворых. На нашым малюнку (зьлева) момант падпісаньня соцыялістычнае ўмовы.



На заводзе „Комунар“ у Менску вырабляюцца спэцыяльныя машыны—фосфорытадрабілкі, у якіх наша вёска адчувае вельмі гострую патрэбу. Вытворчасьці фосфорытадрабілак на заводзе „Комунар“ аддаецца вялікая ўвага. На нашым малюнку: ударная брыгада заводу „Комунар“ заканчвае зборку партыі фосфорытадрабілак.



Другі Беларускі Дзяржаўны тэатр заключыў умову па соцспаборніцтву з Беларускім Дзяржаўным Яўрэйскім тэатрам. На здымку, справа, прадстаўнікі абодвых тэатраў падпісваюць соцыялістычную ўмову.

# З А Д В А Т Ы Д Н І

Сусьветная буржуазія ўсхвалявана. Больш таго, напалохана. І гэтага мала,—яна апавіта сьмяртэльным жахам.

Дзе доказы? Адкажам слоўмі буржуазнага амэрыканскага журналістага Вальтэра Дзюранты. Ён піша пра СССР:

„1929 год быў годам двох вялізарнейшых дасягненьняў — станоўчага і бясспрэчнага зьдзяйсьненьня програмы першага году пяцігадовага пляну, які быў сустрэчаны пагардай і недавер'ем у шмат якіх краінах сусьвету, і ня менш станоўчай і бясспрэчнай апрацоўкі і засеву зямель, што ляжалі ў Расіі цалiной на працягу стагодзьдзяў... Немцы, якія лепш усяго ведаюць Расію, напалохаліся як у эканомічных, так і політычных адносінах".

Так вось у чым справа. Вялізарныя посьпехі СССР на франтох соцыялістычнага будаўніцтва — вось чаго бясконца баіцца капіталістычны сусьвет. Да, першы год пяцігодкі выканан беззаганна, мы выперадзілі намёткі пляну. Буржуазны сусьвет імкнецца сарваць наша будаўніцтва. І распачалася шалёная, атрутная траўля...

Куцепаўшчына. Што гэта? Проста выдумка, інсцэніроўка або сэнсацыя бульварных і соцыял-фашыцкіх газэт? Адзін з польскіх корэспондэнтаў, які жыве ў Парыжы—неяк прамовіўся: „калі-б ня было куцепаўскай гісторыі, дык яна была-б здумана". Урэшце выявілася, што шляхі зьнікненьня Куцепава вядуць да Інтэліджанс Сэрвіс — цэнтру ангельскай контр-разьведкі. Вось адкуль пайшлі байкі аб тым, што з Парыжу „агенты ДПУ" скралі белагвардзейскага гэнэрала Куцепава.

Дарма пыталася буржуазія і яе „соцыялістычныя" падгалоскі стварыць справу, у якую магчыма-б было ўпутаць СССР. Дарэмная праца! Не дапамаглі і лятуцьлівыя дэкляраваньні вялікай грашовай узнагароды. Сарвалося...

Але антысавецкую кампанію спыняць ня маюць жаданьня, пачынаюць дзейнічаць нечым „новым"... У рух прыводзяцца ўсе антысавецкія сілы. Тут і папа рымскі, і рэдактар соцыял-дэмократычнага „Форвэртс'а" пан Штрампфэр, і нафтавы кароль Дэтэрдынг, і кіраўнік ангельскай царквы архіепіскап Кэнтэрбэрыйскі. равіны Францыі, Амэрыкі, Ангельшчыны і Польшчы, адкрытыя фашысты, і з вашага дазволу сказаць „соцыялістыя" тыпу Леона Блюма, і польскія сэнатары, і, адным словам кажучы, уся зграя, якой магутны ўзрост Савецкага Саюзу не дае пакою.

Уся антысавецкая кампанія вядзецца пад лёзунгам „абароны" рэлігіі, так як у СССР, як бачыце, нібыта „праследуюць" за рэлігійныя пераконаньні, жадаюць падагрэць пачуцьці веруючых—і у друку зьяўляюцца самыя бязглуздыя паведамленьні пра расстрэлы папоў, равінаў, аб прасьледваньнях веруючых...

Праўда, ніхто ня можа прадставіць факты, бо іх ня існуе ў рэчаіснасьці. Гэта прымушана была прызнаць нават частка буржуазнае прэсы, якая правільна прадугледжвала, што і гэты кунсштук, як і куцепаўшчына, скончыцца вялікім конфузам.

Нельга ўжо захаваць таго, што выступленьне папы рымскага і другіх епіскапаў, равінаў і іншых сьвяшчэнных служкаў рангам ніжэй пахнуць нафтай.

Выступаюць супроць савецкай нафты, субсідуюць усе гэтыя выступленьні нафтавыя каралі. Аб гэтым ужо вымушаны пісаць лібэральныя газэты Ангельшчыны, як „Манчэстэр Гардыян" і інш.

Сэнс усёй гэтай ачмурэлай кампаніі, што зараз вядзецца—падрыхтоўка вайны супроць СССР пад сьцягам „крыжацкага паходу".

Буржуазія жадае не дапусьціць ліквідацыі кулацтва як клясы, бо ў кулаку сусьветны капітал бачыць свайго прыроднага клясавага хаўрусьніка на абшарах СССР.

* * *

„Усе крыкі аб ядыным моральным фронце супроць СССР, куцепаўшчына ва Францыі і г. д.—усё гэта падрыхтоўка да нападу на першую ў гісторыі чалавецтва дзяржаву рабочых і сялян",—гаварыў у польскім сойме комуністычны дэпутат Жарскі. А „Дзень Польскі", ворган польскіх фашыстых, адкрыта заклікае да вайны...

У польскім сейме Тадэуш Жарскі кідаў вогненыя словы:

„Вы, абаронцы капіталізму, што зажыва гніе, вы хочаце сарваць пераможную пяцігодку, вы хочаце вайны з СССР...

Фашыстаўскі ўрад Пілсудзкага ліхаманкава заключае дагаворы, што накіраваны супроць СССР, організуе антысавецкі блёк..."

Антысавецкія выступленьні ня спыняюцца. Ледзь разойдуцца туманы аднэй хлусьні, як на зьмену ім ідуць другія. „Лісты Зіноўева"—ім няма канца, калі трэба падрыхтоўваць „крыжацкі паход" супроць дзяржавы рабочых і сялян.

* * *

За поўнае зьніштажэньне панаваньня буржуазіі, за дыктатуру пролетарыяту, узьнімаюцца і змагаюцца, абараняючы СССР, абараняючы соцыялізм, усе рабочыя масы ўсяго сусьвету. На Бэрлінска-Брандэнбурскай конфэрэнцыі комсамольцы вырашылі: „нам мала рэволюцыйных рэзолюцый, мы будзем змагацца за вуліцу, за перамогу пролетарыяту".

Захістаўся каралеўскі трон у Гішпаніі. Вялізная забастоўка чыгуначнікаў у Індыі. Эканомічны крызіс ПАЗШ, які адбіваецца на ўсім капіталістычным сусьвеце. Вулічныя бойкі ў Гамбургу. Рэволюцыйныя выступленьні рабочых у Румыніі. І, урэшце, **нязвычайны рост беспрацоўя, нячуваны ў гісторыі.**

Вось лічбы:—шэсьць мільёнаў беспрацоўных у Амэрыцы, тры з паловай мільёны ў Нямеччыне, два мільёны ў Ангельшчыне, адзін мільён у Італіі, чвэрць мільёна ў Польшчы. Бязупынна расьце беспрацоўе і ў іншых краінах—Чэха-Славакіі, Аўстрыі, Вэнгрыі, Японіі...

Усяго дваццаць мільёнаў беспрацоўных пролетараў, а разам з сем'ямі, восемдзесят мільёнаў чалавек, што прысуджаны на голад.

„Галодны паход" на Вену.

„Галодны паход" на Гамбург.

„Галодны паход" на Лёндан

„Галодны паход" на Бэрлін...

Буржуазія страляе ў беспрацоўных, але яна ня можа спыніць нездаваленьня, рэволюцыйнага руху мас.

* * *

6-АЕ сакавіка—дзень пролетарскай дэманстрацыі супроць рацыяналізатарскай экспляатацыі капіталу, супроць нужды, супроць падрыхтоўкі новай разьні.

У гэты дзень пад славутамі чырвонымі баявымі сьцягамі комуністычных партый Комінтэрну будуць дэмонстраваць мільёны беспрацоўных і тых рабочых, што працуюць на прадпрыемствах. Ідзе энэргічная падрыхтоўка да гэтага дня.

Мобілізуецца і інтэрнацыянал поліцэйскіх. Бэрлін. Вена. Парыж. Падрабязныя тэлеграмы-данясеньні. Падрыхтаваны жандары. Выданы законы, што забараняюць мітынгі, сходы пад адкрытым небам.

У „дэмократычных" краінах тэлькі што і чуеш вельмі ўлюбёны ў праклятай царскай Расіі загад: „патронаў не шкадаваць".

Цэргібелі рыхтуюць расправы...

Але рэволюцыйная хваля ўзьнімаецца ўсё вышэй. Баромэтр не апускаецца. Апошнія паведамленьні з Нямеччыны, Францыі, Амэрыкі, Ангельшчыны сьведчаць аб непахіленай волі рабочых да змаганьня.

Рабочыя і беспрацоўныя ідуць разам, адзін каля аднаго, супроць аб'яднанага лягеру буржуазіі і жоўтых профсаюзных правадыроў, і іх не палохаюць пагрозы крывавай расправы.

Надыходзяць рэволюцыйныя сакавікоўскія дні...

---





За апошн... партыю, ... ад яго-...

# Гомельскі паравозны завод імя Ланцуцкага

Фото С. Грына



За апошнія два месяцы на Гомельскім паравозным заводзе рабочымі паданы звыш 150 заяў аб паступленьні ў партыю. На малюнках: зьверху, зьлева—сьлесар т. М. Жураўлёў, мае 36-гадовы рабочы стаж; зьлева ад яго—т. К. Жукаў—сьлесар з 33-гадовым рабочым стажам; абодва ў Ленінскія дні паступілі ў партыю. На малюнку зьнізу—рэмонт трактара для колгасу

# Грамадзяне сваёй краіны

Фэльетон
ЯНКІ МАЎРА

Жывуць яны ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах. Налічваюць некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Падзяляюцца на трэсты. Кожны трэст кіруе якой-небудзь галіной дзяржаўнай гаспадаркі. Для агульных канцэлярскіх спраў абіраюць прэзыдэнта, а ў паасобных штатах—губарнатараў.

Гутарка ідзе аб аднэй такой катэгорыі грамадзян, аб'яднаных у „Нацыянальную асацыяцыю электрычнага асьвятленьня". Гэтая організацыя прадстаўляе 90% усёй электрычнай энэргіі, што здабываецца ў Злучаных Штатах. Разам з прыватнымі трамвайнымі прадпрыемствамі яны займаюць 95%. На долю дзяржаўных і комунальных электрастанцый застаецца толькі 5% [1]).

Сілавы трэст, як называюць гэтую організацыю, падзяліў усю краіну на 12 раёнаў, паставіў у кожным раёне свой камітэт, які павінен сачыць, каб ніхто не перашкаджаў грамадзкакарыснай працы організацыі. Фактычна больш-менш небясьпечным ворагам для яе зьяўляецца... дзяржава. Бо часам нават сярод губарнатараў знаходзяцца здраднікі, якія высоўваюць на першы план інтарэсы дзяржавы. Так, напрыклад, губарнатар штату Нью-Ёрк, Альфрэд Сьміт, пачаў падтрымліваць ідэю пабудовы магутных дзяржаўных электрастанцый.

Зараз-жа супроць яго ўзьнялася „грамадзкая думка". Ва ўсім штаце выказалася супроць 3479 прамоўцаў перад 331.000 слухачамі. Была выдана ў 190.000 экзэмплярах кніга, у якой ганьбілася асоба Сьміта. Нават на выхаваньне моладзі ў патрэбным яму кірунку трэст зьвярнуў увагу. Было перагледжана 25 падручнікаў; 14 з іх былі прызнаны шкоднымі для трэсту і... выключаны: другая частка па заданьню трэсту была перапрацавана і, нарэшце, было выдана 106.000 сваіх, новых падручнікаў і разьмяркована ў 491 школе. Тыя настаўнікі, якія не згаджаліся з гэтым, былі звольнены, затое паслухмяныя атрымлівалі дапамогу, нават, у 5.000 даляраў. Унівэрсытэты ў Говардзе, Чыкаго, Мічыгоне, тэхнолёгічныя інстытуты ў Масачузэце, Бальтыморы атрымалі па 30.000 даляраў на досьледы аб карыснасьці прадпрыемстваў трэсту. Члены парламэнту і розных устаноў таксама атрымалі „гонорар" за дапамогу і парады. Газэты маюць прыбытак ад трэсту ад 28 да 38 мільёнаў даляраў штогод і, зразумела, сварыцца з такімі кліентамі ахвоты ня маюць. Адным словам, прыведзена была ў рух уся амэрыканская „дэмократыя".

Шмат грошай каштавала гэтая „грамадзкая думка". Але вынікі былі здавальняючыя. Сам Гувэр выказаўся:

— *Дзяржава не павінна ісьці на конкурэнцыю з грамадзянамі сваёй краіны.*

А прэзыдэнт Кулідж (у 1927 г.) забараніў дзяржаўную эксплёатацыю нават тэй адзінай электрастанцыі (Мосл-Шоальс, на р. Тэнесі), якая да гэтага часу была пабудавана дзяржавай.

Толькі непакойны Сьміт змагаецца. Ён нават прывёў самы важны довад, што водныя рэсурсы не належаць прадпрыемцам, а „даны нам богам". Хоць у Амэрыцы і судзяць за бязбожжа, але ў гэткай справе і такі довад не памог.

Справа-ж ідзе аб трох дзяржаўных электрастанцыях, з якіх адна пабудавана, а дзьве ў проекце.

Электрастанцыя Мосл-Шоалс пабудавана ў часе вайны для вырабу азоту на ваенныя мэты. Ужо тады „грамадзяне сваёй краіны" дасылалі абежнікі, што справа гэта бескарысная, але ў такі адказны момант іх не паслухаліся. Гэтая пабудова зьяўляецца пакуль што самай вялікай у сьвеце, дае 2 міліёны конскіх сіл. Каштавала 300 мільёнаў рублёў. А заводы ўжо 10 год як не працуюць. Электраэнэргія прадаецца па 1 цэнту за кілёват прыватнай Алабамскай кампаніі, а тая прадае яе спажыўцом па 8 цэнтаў.

Тады выступіў вядомы Форд. Ён засыпаў усю краіну літаратурай, у якой даводзілася, што ў Мосл-Шоалсе можна выпрабляць штучныя ўгнаеньні, і што ён, Форд, бярэцца за гэтую справу, калі здадуць электрастанцыю яму ў арэнду на 100 год, ды яшчэ ўкладуць у яе 200 мільёнаў даляраў. З такой самай прапановай выступіла і другая кампанія.

Зноў загаварыла „грамадзкая думка". Нарэшце конгрэс пастанавіў, каб электрастанцыя эксплёатавалася дзяржавай. А прэзыдэнт Кулідж, як мы бачылі, не згадзіўся. Забарона прэзыдэнта мае моц на 2 гады. Гэтыя два гады мінулі, зрабіўся прэзыдэнтам Гувэр, але адважыцца на карыстаньне дзяржаўнай электрастанцыяй ён таксама ня можа.

Бо гэта ёсьць, з аднаго боку, „конкурэнцыя з грамадзянамі сваёй краіны", а з другога—вельмі небясьпечны прыклад... „соцыялізму" (!).

Але жыцьцё бярэ сваё. Інтарэсы дзяржавы вымагаюць агульна-дзяржаўных электрастанцый. Ужо ў 1926 годзе зьявіўся проект электрастанцыі на рацэ сьв. Лаўрэнцыя. Гэтая станцыя можа даць 5 мільёнаў конскіх сіл і, апрача таго, зусім рэорганізуе шляхі зносін у гэтым раёне. Нават Гувэр павінен быў прызнаць, што гэтая рэч вельмі карысная для дзяржавы.

Але... што скажуць „грамадзяне"?

Да таго-ж яшчэ той самы „рэволюцыйны" Сьміт чамусьці выступіў супроць. Што за дзіва такое? А справа вельмі простая: ён належыць да тых „грамадзян", якія трымаюць у сваіх руках чыгункі. А гэтыя чыгункі могуць даць меншы прыбытак, калі зьявяцца новыя танныя водныя шляхі.

Але зусім адмовіцца ад такога карыснага проекту немагчыма. І вось пачынаецца гульня ў хованкі. Усе меркаваньні, нарады вядуцца толькі вакол пытаньня аб шляху. Вылічваецца, як палепшыцца ён, які прыбытак дасьць краіне, якія патрэбы задаволіць і г. д. Ну, а гэтыя 5 мільёнаў конскіх сіл так сабе, паміж іншым, можна будзе ці выкарыстаць самім, ці аддаць у арэнду „грамадзянам". Не адмаўляцца-ж ад іх? А будуем мы не для энэргіі, а толькі для рэорганізацыі воднага шляху.

Таксама ідзе справа і аб трэцяй электрастанцыі, Болдэр-Дам (на р. Колёрадо, у Каліфорніі). Гэта цікавая рэчка цячэ ў такіх цясьнінах („каньёнах"), што берагі яе часам стромка ўздымаюцца больш як на кілёмэтр. У адным такім месцы каля гораду Лёс-Анжэлёсі і зьбіраюцца пабудаваць дамбу мэтраў з 200 вышыні. Павінна стварыцца возера, для запаўненьня якога досыць значная рака Колёрадо мусіць спыніць свой бег на $1^1/_2$ гады. Станцыя можа даць 3,6 міліярдаў кілёват і, акрамя таго, абводніць суседні засушлівы раён.

Зразумела, і тут, каб адвясьці вочы „грамадзянам", уся ўвага накіроўваецца на абваднененьне. Але іх гэтым не ашукаеш. Член парляманту Е. Лезервуд проста кажа:

— Гэта яны наўмысьля кажуць, што маецца на ўвазе абвадненьне. На справе-ж галоўная мэта—здабыць энэргію.

А газэта Хэрста патрабуе сьледзтва, каб высьветліць, хто дапамагае гэтай выдумцы і хто пасылае дзеячом дармовыя фрукты, каб схіліць на свой бок. Нават ваду Колёрадо зганілі, казалі, што яна шкодная для ўжываньня.

Мусім зазначыць, што мы прыводзім тут толькі найбольш характэрныя, цікавыя моманты змаганьня. „Грамадзяне" маюць досыць сродкаў, каб мобілізаваць больш разумныя выступленьні і довады. Але сэнс усёй справы ад гэтага не зьмяняецца.

1) Ф. Капелюш—„Сверхмощные государственные установки в С. Ш." „Мировое хозяйство" № 3—4 за 1929 г.

## НОВЫ ТЫП ГАРАЖА Ў АМЭРЫЦЫ

### Дзесяць аўтомобіляў у маленькім гаражы



Інжынэр Моржон (Амэрыка) зьяўляецца вынаходцам гэтага адзінага па сваёй конструкцыі гаража. Унутры на сталёвых ланцугох вісяць пляцформы, прычым на кожную з іх зьмяшчаецца па адным аўтомобілі.

Інжынэр Моржон мяркуе, што яго гараж, пабудаваны накшталт вежы з пад'ёмнымі пляцформамі дасьць магчымасьць практычна разьвязаць пытаньне аб пабудове гаражоў у вялікіх шчыльна заселеных гарадох, бо яго гараж займае месца ўсяго $17 \times 25$ квадратовых футаў.

# БУДУЕМ СВАЮ ГАСПАДАРКУ



У Закаўказьзі пабудаваны новы курорт Цхалтубо, у якім будуць лячыцца хворыя, галоўным чынам, на раматуз. На працягу году курорт будзе прапушчаць каля 15.000 хворых. На малюнку: галоўны будынак палікліпікі.



У Інгушэтыі, пры станцыі Назрань пабудаваны новы элеватар. На малюнку: агульны від элеватара.



Крупельныя машыны па нядаўна пабудаванай (1929 г.) новай адбельнай фабрыцы сосьнеўскае мануфактуры ў Іванава-Вазьнясенску.





Зьлева: першая ў СССР гадзіньнікавая фабрыка. За сёлетні год фабрыка мае выпусьціць 150 тысяч штук будзільнікаў, цана якіх будзе танейшая за цану замежных будзільнікаў (6 рублёў замест 10). На малюнку зборачны цэх. Справа: новапабудаваны ў цэнтральным пасёлку „Гігант" вялізарны элеватар.









Завод імя Марці ў Ленінградзе заканчвае пабудову 8 новых буйных судноў 1 серыі двухмоторных морскіх шхун, грузападʼёмнасьцю па 6.000 тон. На малюнках зьверху зьлева басэйн, у якім дабудоўваюцца лёдакол „Торос" і 3 таварапасажырскія параходы; справа—будаўніцтва шхуны; унізе справа—вялізарныя судны „Бела Кун" і „Макс Гельц", пабудова якіх заканчваецца на ленінградзкай паўночнай суднабудаўнічай вэрфі; зьлева—першы перьсоўны крапт на новай вялізарнай лесаэкспортнай гавані, якая будуецца ў Ленінградзе.



Новы корпус электрастанцыі „Красный Октябрь", які будуецца ў Ленінградзе. Працоўныя Савецкага Саюзу ужываюць усе захады, каб, не гледзячы на позьнюю зіму, на раньнюю вясну, на малую колькасьць сьнегу, поўнасьцю і своечасова выканаць план лесанарыхтовак.

# ГОДНЫЯ І НЯГОДНЫЯ



**АКАДЭМІК, ЯКІ НЯ МАЕ ГОДНАСЬЦІ ПРОФЭСАРА:**

— Я чуў, профэсар, што вы зрабілі даклад з марксыцкім ухілам?

**ПРОФЭСАР, ЯКІ НЯ МАЕ ГОДНАСЬЦІ АКАДЭМІКА:**

— Так, я давёў, што блажэнны мучанік Андрэй Баболя, мошчы якога знаходзіліся ў полацкім катэдральным касьцёле, сапраўды зьяўляецца беларускім сьвятым, і што творы яго, як і казаньні сьвятое прэпадобнае Ефрасіньні Полацкае, зьяўляюцца беларускімі нацыянальнымі па форме і пролетарскімі па зьмесьце.

**Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва** **Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

ПЕРШЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ**

ШТОМЕСЯЧНЫ БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „П О Л Ы М Я“

**12 КНІЖОК**

**замест 12 рублёў—**

**толькі 10 руб.**

Падпісчыкі, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць на працягу 1931 г. адразу два часопісы— **„Чырвоная Беларусь“ і „Полымя“.** Падпісчыкі час. **„Полымя“,** якія ўжо ўнесьлі гадавую плату, будуць атрымліваць час. **„Чырвоная Беларусь“ дармова.**

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1931 ГОД

### „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

| | |
|---|---|
| На 1 год | **3** р. |
| „ паўгода | **1** р. **50** к. |
| „ 3 месяцы | — **75** к. |
| Цана асобн. нумару | — **15** к. |

### „П О Л Ы М Я“

| | |
|---|---|
| На 1 год замест **12** р. | —**10** руб. |
| „ паўгода | — **5** руб. |
| „ 3 месяцы | — **3** руб. |
| Цана асобн. нумару | — **1** руб. |

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

**Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), яго агентура, акруговыя аддзяленьні і ўсе кнігарні БДВ, кіёскі контрагэнцтва друку, усе пошты і лістаносцы ў гарадох і вёсках БССР**

